● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

23 мая 1996 г. чацвер, №№ 127–128 (22930 — 22931)

# ЗВЯЗДА





Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сустрэўся са старшынёй нямецкага гуманітарнага таварыства «Дапамога дзіцячай клініцы Мінска» зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія доктарам Гербертам Шноарам, які прывёз гуманітарны дар для дзіцячага хірургічнага цэнтра Мінскай клінічнай бальніцы №1. Гэтае таварыства, пачынаючы з 1991 года сабрала дзіцячаму хірургічнаму цэнтру больш як 10 мільёнаў нямецкіх марак.

Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір 21 мая прысутнічаў пры цырымоніі перадачы Дзіцячаму хірургічнаму цэнтру, які дзейнічае пры мінскай клінічнай бальніцы №1, новага рэнтгеналагічнага аддзялення, лекавых прэпаратаў і медыцынскіх расходных матэрыялаў.

## КУПІЦЕ ПРАЯЗНЫ З МАРКАЙ

**Пасажырам сталічнага метро ў апошні час прапануюцца праязныя білеты на месяц у выглядзе шматразовай пластыкавай карткі.**

І вось, як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ва ўпраўленні транспарту і сувязі Мінгарвыканкома, з чэрвеня ва ўжытак уводзяцца праязныя на метро ў камбінацыі з іншымі відамі гарадскога транспарту. Пакуль што гэта будзе толькі «метро-аўтобус». Рэалізацыя іх будзе ажыццяўляцца пакуль што толькі праз касы метрапалітэна і кіёскі, якія належаць упраўленню транспарту і сувязі Мінгарвыканкома. Новаўвядзенне звязана з некаторымі асаблівасцямі. Пры пакупцы такога праязнога вы атрымаеце яшчэ і спецыяльную марку, якую трэба наклеіць на картку. Ёю будзе абазначацца від транспарту, на якім дазволены праезд.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

***БІЗНЕС***

## ПРАДСТАЎНІКІ «САМСУНГ ЭЛЕКТРОНІК К°, ЛТД» НЮХАМ АДЧУВАЮЦЬ ПАХ ПЕРАМЕН, А ЗНАЧЫЦЬ, І ПРЫБЫТКАЎ НА БЕЛАРУСІ

Гэта даволі шчырае і вобразнае прызнанне Чунг Іл Янг, генеральны дырэктар па СНД «Самсунга», адной з буйнейшых акул капіталістычнага свету (калі гаварыць мовай «халоднай вайны»), зрабіў у час сустрэчы з журналістамі ў офісе беларускай фірмы РАМПО. Ён і яго калегі Джу Санг Ын, кіраўнік Санкт-Пецярбургскага прадстаўніцтва, і Бьюнг Сунг Чой, менеджэр экспартнай групы па СНД, некалькі дзён знаходзіліся ў Мінску, вывучалі магчымасці рынку Беларусі.

Калі верыць словам Чунг Іл Янга, карэйцы засталіся задаволенымі праведзеным даследаваннем. Наш рынак здаўся прывабным для «палявання» аднаму з азіяцкіх эканамічных «тыграў», якім лічыцца Паўднёвая Карэя. Пах выгадных для «Самсунга» перамен у нас на Беларусі Чунг Іл Янг, адзін з самых вопытных работнікаў фірмы, адчуў, па яго словах, нюхам. Ён у свой час прадстаўляў інтарэсы «Самсунга» ў Аўстрыі, Германіі, Кітаі, СССР, цяпер у Расіі.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

**Газета «Звязда» 24 мая з 12 да 13 гадзін праводзіць «ПРАМУЮ ЛІНІЮ» з міністрам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь Васілём Іванавічам СТРАЖАВЫМ.**

У дзень «прамой лініі», паважаныя чытачы, мы чакаем вашых званкоў па тэлефонах: ***32-38-21 і 32-38-92.*** Папярэдне задавайце пытанні па тэлефоне ***68-28-72.*** Чакаем і вашых пісьмаў з пытаннямі.

Упэўнены, што на ўсе вашы пытанні, якія датычацца сферы адукацыі, будуць дадзены самыя кампетэнтныя адказы.

**УВАГА! СУМЕСНАЯ АКЦЫЯ ГАЗЕТЫ «ЗВЯЗДА» І БЕЛАРУСКАГА ДАБРАЧЫННАГА ФОНДУ «ДЗЕЦЯМ ЧАРНОБЫЛЯ»**

## ВЫРАТАВАННЕ



**«Звязда» і Беларускі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля» распачынаюць сумесную акцыю па выяўленню і адпраўцы на аздараўленне за мяжу, у першую чаргу з глыбінкі, дзяцей, якія атрымалі захворванні ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС і зусім альбо ў апошнія год-два не прайшлі лячэння.**

**Пішыце на адрасы: 220029, Мінск, вул. Старавіленская, д. 14, Беларускі дзіцячы фонд «Дзецям Чарнобыля» альбо 220013, вул Б. Хмяльніцкага, д. 10а, «Звязда». Званіце па тэлефонах: 68-28-72, 32-14-52.**

***ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК***

## КУДЫ ПАДЗЕЛАСЯ «ЗОЛАТА ПАРТЫІ»?

Амаль усе выступленні, якія ўчора прагучалі ў раздзеле «рознае» на сесіі Вярхоўнага Савета, былі надзвычай актуальнымі для сённяшняй палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў Беларусі. Так, дэпутат Грушэўскі звярнуў увагу калег на пастанову № 116 Кабінета Міністраў, якая зацвердзіла новую чарнобыльскую канцэпцыю. Нагадаю, што згодна з гэтай пастановай пераважная частка населеных пунктаў Магілёўскай, Гомельскай і Брэсцкай абласцей, якія раней лічыліся забруджанымі, цяпер прызнаны «чыстымі», а жыхары іх у адзін момант пазбавіліся чарнобыльскіх ільгот і кампенсацыйных выплат. Гэта і занепакоіла намесніка старшыні чарнобыльскай камісіі парламента, які заклікаў вярнуцца да гэтай праблемы і перагледзець рашэнне ўраду.

Сп. Бухвостаў выказаў сваю занепакоенасць тым фактам, што насельніцтва Беларусі амаль не атрымлівае інфармацыі аб дзейнасці парламента з-за таго, што работа дзяржаўных СМІ, асабліва электронных, у гэтых адносінах нездавальняючая. А дэпутат Ігнацішчаў зрабіў запыт на імя Генеральнага пракурора Беларусі з патрабаваннем прадаставіць інфармацыю аб так званай «справе 28 мільёнаў». Як вядома, у пачатку 1991 года ЦК КПБ выдзеліў Магілёўскаму абкому 28 мільёнаў рублёў на будаўніцтва дзіцячага санаторыя, але грошы зніклі. Вось і спрабуе народны выбраннік высветліць, куды падзелася «золата партыі». Дарэчы, што датычыцца дэпутацкіх запросаў. Вольга Абрамава, напрыклад, выступаючы ў «Розным», выказала абурэнне тым, што дзяржаўныя органы ўлады ўсё часцей і часцей рэагуюць на іх звычайнымі адпіскамі. Лідэр фракцыі «Грамадзянскае дзеянне» Станіслаў Багданкевіч узняў пытанне аб кампенсацыі ўкладаў. Па яго звестках, дзеля таго, каб дзяржава вярнула людзям тыя сродкі, што былі знішчаны інфляцыяй, спатрэбіцца 450 трыльёнаў рублёў, што прыблізна роўна 9-ці гадавым бюджэтам краіны. У такой сітуацыі адзінае выйсце, на думку Багданкевіча, заключаецца ў кампенсацыі ўкладаў шляхам прыватызацыі. У заключэнне «Living» сп. Лазавік зачытаў зварот старшынь гарадскіх і раённых Саветаў дэпутатаў Магілёўскай вобласці да Вярхоўнага Савета.

Пленарнае пасяджэнне пачалося з прапановы ўключыць у парадак дня бягучай сесіі праект Закона «Аб унясенні змяненняў у Закон «Аб сацыяльнай абароне інвалідаў у Рэспубліцы Беларусь». Потым было прапанавана ўключыць у парадак дня сесіі праект Пастановы «Аб прадастаўленні зямельных участкаў». Аднак прыняць гэтую пастанову дэпутаты так і не змаглі, накіраваўшы праект на дапрацоўку.

Такім чынам, не спыняючыся доўга на разглядзе параўнаўча дробных пытанняў, Вярхоўны Савет перайшоў да найбольш важнага. Абмеркаванне Закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь» яшчэ павінна было пачацца на мінулым тыдні, але па прычыне хваробы старшыні Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву і самакіраванню Уладзіміра Савічава яно было перанесена на больш позні час. Прыступілі да гэтага законапраекта дэпутаты толькі ўчора. Аднак адразу работа пайшла вельмі марудна, паколькі нават адносна мізэрных змяненняў узнікалі спрэчкі.

Найбольш гарачыя, у прыватнасці, датычыліся прапановы ўзаконіць фракцыі або, іншымі словамі, дэпутацкія аб'яднанні. Калі адны дэпутаты пераконвалі, што фракцыйная аформленасць Вярхоўнага Савета гэта ўжо рэальная з'ява і дзеля больш эфектыўнай дзейнасці дэпутацкіх аб'яднанняў патрэбна іх прававое афармленне, то другія выказвалі супрацьлеглую думку. Напрыклад, дэпутат Уладзімір Нісцюк адзначыў, што фракцыйны прынцып ужо нанёс пэўную шкоду парламенту, паколькі выбранне кіраўніцтва камісій і Прэзідыума, які адбываўся менавіта па фракцыйнай прыналежнасці, аказаўся неэфектыўным. Такім чынам, з найбольш важных рашэнняў, якія парламент паспеў прыняць учора ў першай палове дня, стала папраўка ў закон, згодна з якой Вярхоўны Савет лічыцца правамоцным пры выбранні 50 працэнтаў ад агульнай колькасці дэпутатаў, а не дзвюх трацей, як было раней.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

***«ГАРАЧЫ ТЭЛЕФОН»***

## «...ЖЫЦЦЁ СПЫНІЛАСЯ ЧАСОВА. ЧАКАЙЦЕ І СПАДЗЯВАЙЦЕСЯ...»

**Слухаючы «гарачы тэлефон» «Звязды» — 68-28-72 — хацелася б быць аптымістам. Не атрымліваецца. Хаця на аптымізм нашых абанентаў настройваюць людзі, кіраўнікі, да якіх найперш звяртаюцца па пытаннях выплаты заработнай платы. У прыватнасці, на адзін са званкоў настаўнікаў Кастрычніцкага раёна беларускай сталіцы адказалі наступным чынам: «...Жыццё спынілася часова. Чакайце і спадзявайцеся...» Ну чым не аптымізм!?**

Дарэчы, «Звязда» пацікавілася, што ж з заработнай платай настаўнікаў у тым жа Кастрычніцкім раёне г. Мінска. У райвыканкоме адказалі, што за красавік грошы выплацілі. Праўда, выйшла затрымка з авансам. Агульная патрэба на гэтую выплату складае 900 мільёнаў рублёў. Змаглі выдаць педагогам меншую палову. Запазычанасць складае 483 мільёны рублёў. Але ж і грошы ніадкуль не бяруцца. У райвыканком у дадзеным выпадку яны павінны паступіць з гарадскога бюджэту. Застаецца чакаць. Наперадзе — цэлае жыццё. І летнія канікулы, і час адпачынку...

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

***ДВА ПІСЬМЫ НА АДНУ ТЭМУ***

## НЕГАНДЛЁВЫЯ ФОКУСЫ ПІНСКІХ «КАРАБЕЙНІКАЎ»

*Даўно выпісваю вашу газету, кожны нумар чакаю з нецярпеннем.*

*Вялікі дзякуй за тое, што нумары заўсёды змястоўныя, а яшчэ за тое, што прыслухоўваецеся да думкі людзей, за шчырасць.*

*Вось і мне хочацца выказаць на старонках «Звязды» сваю крыўду.*

*12 мая я паехаў на рынак, каб купіць плёнку. На машынах у большасці яе прадавалі рулонамі. На адной яны былі па 50 метраў. Папрасіў адмераць 10 метраў, хоць цаны на плёнцы не было. На маё пытанне якая яе цана, адказалі, што 4800, усюды ж прадавалі па 4500 рублёў. Папрасіў накладную, на што пачуў такое, што апісваць не буду.*

*Словам, адпусціць плёнку наадрэз адмовіліся (а былі два прадаўцы). Тады жонка пайшла да дырэктара рынку і ён сказаў, што гэта парушэнне правілаў гандлю. Праўда, папрасіў пачакаць, а сам кудысьці званіў, кагосьці шукаў — стараўся дапамагчы. Аднак, не знайшоўшы патрэбных людзей, ён выклікаў сяржанта Карташэўскага, і мы пайшлі да машыны (дакладна не памятаю нумара, але, здаецца, 93-74), якая прыбыла з Пінска, ад магазіна «Гаспадарчыя тавары». Сяржанту прад'явілі накладную, і высветлілася, што плёнка па 4500 рублёў за метр, а на маё патрабаванне прадавец з-пад рулона выцягнула і адпаведны ярлык. Затым, пасля многіх пярэчанняў з сяржантам і адмовы пайсці да дырэктара, яны згадзіліся адмераць мне 10 метраў. Сяржант дзесьці дастаў метр, бо ў прадаўцоў або не было яго, або не хацелі паказваць. Тым часам падышлі яшчэ некалькі чалавек. Але адпускаць ім плёнку яны не сталі.*

*Хочацца задаць пытанне: «Для каго такія «карабейнікі» выязджаюць, марнуюць дарагі бензін, які так патрэбны для пасяўной?»*

*Магчыма, хто-небудзь скажа, што гэта «дробязі», але з такіх дробязей складваецца наша жыццё. Пераканаўча прашу апублікаваць маё пісьмо. Няхай усе ведаюць, што ў міліцыі працуе многа такіх добрых, дысцыплінаваных, сумленных людзей, як сяржант Карташэўскі.*

**Міхаіл БАЕВІЧ, інвалід вайны II групы.**

*Г. Лунінец.*

## РЭВІЗОР ПАЕХАЎ, А МЫ СЯДЗІМ БЕЗ ХЛЕБА

Два тыдні ўжо як закрыты магазін у нашай вёсцы Гіравічы Ракаўскага сельсавета, а нам няма дзе купіць хлеба. Цэлымі днямі мы сядзім пад яго дзвярыма, хоць трэба працаваць, і ўсё дарэмна. Чаму?

З Валожына прыехаў рэвізор, і пасля праверкі зачынілі краму невядома на які час. А там жа тавары, нават цыбуля расце ў мяшках. Колькі ж будзем чакаць таго хлеба, дзе яго купіць? Вельмі просім: дапамажыце! Будзем вам удзячныя!

**З павагай В. АДАМОВІЧ і іншыя жыхары**

*в. Гіравічы Валожынскага раёна.*

### АД АДДЗЕЛА ПІСЬМАЎ

Аб чым сведчаць гэтыя два пісьмы? Аб тым, што ў гандлі, як у горадзе, так і ў вёсцы, паранейшаму мноства розных парушэнняў. Відаць, менавіта з-за іх пасля рэвізіі і была закрыта крама ў в. Гіравічы Валожынскага раёна, на што справядліва скардзяцца яе жыхары. Узнікае заканамернае пытанне: чаму з-за махінатарства прадаўцоў павінны цярпець радавыя пакупнікі, якія на два тыдні засталіся нават без хлеба і солі? Што, на гэты час райспажыўсаюз не мог сюды арганізаваць выезд аўтакрамы? Мог, але, на жаль, не арганізаваў. У г. Мінску, дзе праз адзін-два кварталы працуюць крамы, і то ў так званы «санітарны дзень» усё роўна ў магазіне прадаюць хлебабулачныя вырабы, малако, кефір, смятану, іншыя самыя неабходныя прадукты харчавання. І гэта вельмі правільна. Чаму ж тады Валожынскі райспажыўсаюз на працяглы час пакінуў вяскоўцаў з глыбінкі без самых элементарных і надзённых тавараў?

Што датычыць інцыдэнту на рынку ў г. Лунінцы, то яго магло і не быць. Работнікі гандлю сёння, каб збыць тавар, могуць з ім ехаць куды хочуць. Але ўсюды яны абавязаны яго прадаваць сумленна, па вызначаных цэнах. Пінскія ж «карабейнікі» сапраўдны кошт плёнкі нахабна ўтаілі, каб мець для сябе «навар». І вельмі правільна зрабілі прынцыповыя пакупнікі, якія з дапамогай дырэкцыі мясцовага рынку і міліцыі спынілі гэта ашуканства сярод белага дня.

Рэдакцыя «Звязды» спадзяецца, што Белкаапсаюз і Міністэрства гандлю па фактах, выкладзеных у гэтых пісьмах, дасць сваю прынцыповую ацэнку.

Так абслугоўваць сёння пакупнікоў ні ў якім разе нельга і недаравальна.

## М.МЯСНІКОВІЧ СУСТРЭЎСЯ З ДЭПУТАТАМІ «ЗГОДЫ»

**Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Міхаіл Мясніковіч выступіў на пасяджэнні парламенцкай фракцыі «Згода».**

Ён пазнаёміў дэпутатаў з ходам рэалізацыі праграмы па паглыбленню інтэгацыйных працэсаў паміж краінамі—удзельніцамі чатырохбаковага пагаднення — Беларуссю, Расіяй, Казахстанам і Кыргызстанам.

Як паведаміла прэс-служба Вярхоўнага Савета, М.Мясніковіч прадставіў блок эканамічных законапраектаў, што будуць перададзены для разгляду ў камісіях і фракцыях Вярхоўнага Савета.

Перад членамі фракцыі «Згода» выступілі таксама віцэ-прэм'ер Валерый Кокараў і намеснік старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда Віктар Камянкоў. Яны расказалі аб падыходах і прынцыпах вырашэння эканамічных праблем, канцэпцыі ўдасканалення дзеючай падатковай сістэмы, законапраектах «Аб банкруцтве», «Аб санацыі», «Аб кіраўніку працэдуры банкруцтва».

**БЕЛТА.**

## ПРАДСТАЎНІКІ «САМСУНГ ЭЛЕКТРОНІК К°, ЛТД» НЮХАМ АДЧУВАЮЦЬ ПАХ ПЕРАМЕН...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Тым не менш, аб перспектывах пранікнення, як і належыць дзелавому чалавеку, Чунг Іл Янг, гаварыў стрымана. На першым часе яны разлічваюць на продаж сваіх вырабаў на суму прыкладна 30 мільёнаў долараў. Што датычыць супрацоўніцтва з прамысловымі прадпрыемствамі, то гэтым «Самсунг» наўрад ці будзе займацца ў Беларусі. Наша рэспубліка цікавая для іх у першую чаргу як яшчэ адзін рэгіён збыту прадукцыі. І прасоўваць яе «Самсунг» будзе з удзелам РАМПО, якая здавалася ім салідным і надзейным партнёрам.

«Самсунг» — карпарацыя № 1 у Паўднёвай Карэі. І ўвогуле ў свеце яна далёка не на апошнім месцы. Адносна маладая, дынамічная, нават агрэсіўная ў дзелавым плане, кампанія пастаянна на слыху дзякуючы сваёй удалай эканамічнай экспансіі на сусветным рынку. Сакрэт поспеху на першы погляд просты: высокая якасць прадукцыі і параўнаўча невысокія цэны на яе. Па асобных пазіцыях «Самсунг» лідзіруе ў свеце, напрыклад, па вытворчасці каляровых манітораў і чыпаў памяці для камп'ютэраў. Па продажы мікрахвалевых печаў «Самсунг» другі ў свеце. Добра распаўсюджваюцца і іншыя вырабы фірмы.

Вядома, прыход яшчэ аднаго сусветна вядомага канкурэнта не выкліча радасці ў нашых айчынных вытворцаў электроннай прадукцыі. Абнадзейваць сябе тым, што процістаяць націску замежных фірмаў можна з дапамогай пратэкцыяніцкіх мераў дзяржавы, не варта. Пастаўкі таго ж «Самсунга» ідуць з Расіі, а з ёй у нас агульная мытная прастора. Лепш, здаецца, сканцэнтраваць усе намаганні на выпуску не горшай па якасці і больш таннай прадукцыі. Толькі такім чынам можна ва ўмовах рынку не толькі выжыць, але і дасягнуць значных поспехаў. Аб чым, дарэчы, яскрава і сведчыць прыклад «Самсунга».

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

*УСЛЕД ЗА ПАДЗЕЯЙ*

## СТАРШЫНЁЎСКАЯ «ВОЛГА» І ЗАРПЛАТА КАЛГАСНІКАЎ: ЧЫЕ ШАЛІ ПЕРАЦЯГНУЦЬ?

**На сумесным пасяджэнні савета Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь і калегіі Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь былі разгледжаны вынікі праверкі мэтавага і эфектыўнага выкарыстання Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання і падведамаснымі яму арганізацыямі сродкаў, выдзеленых з рэспубліканскага фонду падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі ў 1995 годзе.**

Агульная сума леташняга пазабюджэтнага фонду па сельскай гаспадарцы склала 1 трыльён 466,9 мільёна рублёў. Паспрабаваўшы прасачыць выкарыстанне гэтых сродкаў, праверка вызначыла нямала хібаў у тым, як і куды накіроўваліся сродкі. Як высветлілася, мелі месца многія парушэнні. У прыватнасці, сродкі пазабюджэтнага фонду неаднаразова пералічваліся Мінсельгасхарчам на разліковыя або бюджэтныя рахункі падведамасных яму ўстаноў, што прыводзіла да часовага адцягнення фінансаў на іншыя мэты. Як прыклад — выдзяленне Мінсельгасхарчам РВА «Белптушкапрому» з гэтага фонду 76.356,5 млн. рублёў. З іх на спецыяльны пазабюджэтны рахунак паступіла толькі 23.316,5 млн. рублёў, або 30,5 працэнта, на разліковы рахунак — 46.500,0 млн. рублёў, або 60,9 працэнта, на бюджэтны рахунак — 6.540,0 млн. рублёў, або 8,6 працэнта. У адказ на гэтую і іншыя заўвагі Міністэрства сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання звяртала ўвагу на тое, што для нармальнага выкарыстання пазабюджэтнага фонду нестае нарматыўных дакументаў. Але ж хто, як не Міністэрства, павінен іх ініцыіраваць, распрацоўваць?

Яшчэ адзін істотны момант. У Мінсельгасхарчы і некаторых падведамасных яму арганізацыях атрыманыя мэтавым прызначэннем сродкі пазабюджэтнага фонду на працягу значнага часу знаходзіліся на пазабюджэтных рахунках без руху. Што гэта значыць? З грошай пачыналі рабіць грошы. Пазабюджэтныя рахункі з'яўляліся крыніцай крэдытных рэсурсаў для банкаў. Упэўнівае, пераконвае ў гэтым і такі факт. З 70,0 млрд. рублёў, якія паступілі ў Мінсельгасхарч з кастрычніка 1995 года, 6,8 млрд. рублёў пералічана падведамасным арганізацыям і ўстановам толькі ў лістападзе 1995 года, а 4,6 млрд. рублёў — ажно ў снежні таго ж года. Аналагічная сітуацыя склалася і з беспрацэнтнай пазыкай у 9,6 млрд. рублёў, якая паступіла ў Мінсельгасхарч 16 лістапада леташняга года. А 1,0 млрд. рублёў з яе пералічылі саўгасу-аграфірме «Мінская агароднінная фабрыка» толькі 26 снежня 1995 г., або праз 40 дзён. Застаецца толькі падлічыць, колькі, якую суму з працэнтаў можна было зарабіць на гэтым мільярдзе рублёў.

Прыклады няправільнага выкарыстання сродкаў можна доўжыць. Але відавочна і іншае: сумеснае пасяджэнне савета Кантрольнай палаты і калегіі Міністэрства фінансаў паслужыць урокам для Мінсельгасхарчу. І, магчыма, з часам, пры выкарыстанні ўжо пазабюджэтнага фонду сёлетняга года, сітуацыя зменіцца.

Уражвае іншае — безгаспадарчасць (амаральная і злачынная ў адносінах да ўсяго працоўнага калектыву!), якую часам праяўляюць на месцах. На пасяджэнні быў агучаны і такі факт. Калгасам «Кастрычнік» Хоцімскага раёна за кошт сродкаў, выдзеленых для першачарговых патрэб гаспадаркі, 96,6 млн. рублёў выкарыстана на набыццё аўтамашыны «Волга» ГАЗ-31029 і 5,0 млн. рублёў — на рэканструкцыю Свята-Троіцкага сабора ў г. п. Хоцімск. Безумоўна, прыемна ездзіць па квітнеючых палетках на навюткай «Волзе». Як і не меней важна клапаціцца пра духоўныя абсягі душы чалавечай. Але ў тым жа калгасе «Кастрычнік» існуе запазычанасць па заработнай плаце. Каментарыі, як кажуць, тут лішнія. Калгаснікам толькі і застаецца забыцца на свецкае жыццё ды дружна ўсім стаць вернікамі Свята-Троіцкага сабора. А яшчэ — суправаджаць замілаванымі позіркамі праезд калгаснага старшыні па ўсіх «кастрычніцкіх» дарогах і прасёлках.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

## ...ПАЧУЦЬ ВЯСКОВЫЯ НАВІНЫ

**Сам я нарадзіўся ў горадзе. Але дзе вы бачылі чалавека, які б рос у адарванасці ад вясковых праблемаў. Яны хвалююць многіх гараджан: трэба садзіць бульбу, сеяць грады, карацей кажучы, трэба карміцца. Але ўсе гэтыя пытанні лепей вырашаюць людзі, якія жывуць непасрэдна ў вёсцы.**

Вось я і вырашыў пагаварыць з **Мікалаем Іванавічам Марозавым,** пенсіянерам з вёскі Заброддзе Шклоўскага раёна. Што ж хвалюе гэтага чалавека? Па шчырасці ён прызнаўся, што не хапае цяпер людзям вёскі духоўнага пачатку. Мікалай Іванавіч не першы раз правёў своеасаблівае сацыялагічнае апытанне аднавяскоўцаў: з дваццаці пяці апытаных толькі некалькі паказалі хоць нейкі, але свой кругагляд па праблемах сучаснага жыцця нашай краіны. Жыць на нешта патрэбна (Мікалай Іванавіч атрымлівае пенсію як інвалід другой групы ў памеры 495 тысяч), але, лічыць ён неабходна думаць і пра духоўнае развіццё. Канешне, праблемы саду-агароду займаюць большую частку часу, паглыбляешся ў сваю гаспадарку, адрываючыся ад спраў калгасных, не гаворачы ўжо пра рэспубліку.

Таму пра гэтыя справы і запытаў я ў старшыні калгаса імя Фрунзе **Леаніда Іванавіча Малахава,** наступнага майго суразмоўцы. Балючых пытанняў шмат, самае галоўнае — грошы, дакладней, іх адсутнасць. Доўг калгаса складае каля 3,5 мільярда рублёў. Сумна ўсё гэта, але старшыня не губляе аптымізму — зараз завяршылі сяўбу, падкормліваюць яравыя, рамантуюць тэхніку, запасаюцца па магчымасці палівам. Вось калі б яшчэ ўлады лепей дапамагалі — зусім няблага было б. Бо калгасы зараз як натуральныя гаспадаркі замкнуты на сваіх мясцовых праблемах.

Загадчык Забродскай крамы **Раіса Іванаўна Брыкіна** ў размове са мною вызначыла добрую пакупную здольнасць вяскоўцаў — мо таму, што крама ля шашы. Дзеці бегаюць. Непадалёку — мясцовая школа. Дзеці мала чым цікавяцца, як расказвала мне настаўніца Забродскай сярэдняй школы **Ніна Сяргееўна Кас'янава.** Ды яшчэ шмат варыянтаў падручнікаў навыдавалі — не ведаеш па якім вучыць. Здароўе падводзіць— настаўніца перанесла некалькі аперацый, цяжка стаяць каля школьнай дошкі. А ў льготнай пенсіі адмовілі, бо была Ніна Сяргееўна ў маладосці важатай (гэту пасаду чамусьці не аднеслі ў шэраг педагагічных пры налічэнні чыста педагагічнага стажу). Вось і прыходзіцца жанчыне парою сціснуўшы зубы ад болю гаварыць з вучнямі аб літаратуры...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## *ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

### ХІРУРГІЧНЫЯ АМПУТАЦЫІ... У ЯКАСЦІ ПАКАРАННЯ

Праваахоўная арганізацыя «Міжнародная амністыя» заявіла, што мае факты, калі ўрачоў і медсясцёр, якія з'яўляюцца сведкамі здзекаў, хаваюць у турмы і нават забіваюць. У дакладзе Лонданскага аддзялення арганізацыі паведамляецца, што медыцынскі персанал сілай прымушалі праводзіць хірургічныя ампутацыі ў якасці пакарання, а потым фальсіфікаваць медыцынскія заключэнні. «Амністыя» мае прыклады 17 краін, сярод якіх і Ірак, дзе дактары па закону адразаюць вушы армейскім дэзерцірам.

### У РАЁНЕ БАМУДА АКАПАЛІСЯ КАЛЯ 800 БАЕВІКОЎ

22 расійскія вайскоўцы загінулі і 43 атрымалі раненні ўчора раніцай у выніку прарыву баевікоў у ваколіцах чачэнскага паселішча Бамуд. Атрад баевікоў колькасцю да 40 чалавек пад покрывам цемнаты наскочыў на пазіцыі вайскоўцаў, пасля чаго завязаўся рукапашны бой. Абодва бакі панеслі страты. Даных пра страты баевікоў няма. Па сведчаннях вайсковай разведкі, у раёне паселішча знаходзіцца каля 800 баевікоў, у тым ліку 300 наёмнікаў.

### КРЫСТАФЕР ЗАКЛІКАЎ ЕЎРАСАЮЗ ДАЛУЧЫЦЦА ДА ЭМБАРГА СУПРАЦЬ ІРАНА

Дзяржсакратар ЗША Уорэн Крыстафер заявіў, што растуць сведчанні выкарыстання Іранам тэрору для падрыву мірнага працэсу на Блізкім Усходзе. Ён звярнуўся да ЕС з просьбай спыніць усякі дыялог з Іранам і замест гэтага далучыцца да амерыканскага эмбарга.

### КАРАДЖЫЧА І МЛАДЗІЧА ЧАКАЕ АРЫШТ

Міжнародны трыбунал па ваенных злачынствах у Гаазе мае намер прадставіць шырокай грамадскасці доказы віны лідэра баснійскіх сербаў Караджыча і камандуючага арміяй баснійскіх сербаў Младзіча. Прадстаўнікі трыбунала спадзяюцца, што сусветная супольнасць актывізуе свае намаганні па арышту Караджыча і Младзіча. Ужо гэтым летам трыбунал мае намер выдаць ордэр на арышт згаданых асоб.

### ПАЦУКІ ЛЮБЯЦЬ ЖАНЧЫН?

У серных лазнях Тбілісі зафіксавана некалькі выпадкаў нападу пацукоў на купальшчыкаў. Цікава, што грызуны пакінулі шматлікія ўкусы выключна на целах жанчын.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## *ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ*

На час англічане страцілі цікавасць да візіту ў Лондан прэзідэнта Францыі Шырака. У цэнтры ўвагі аказалася прыналежнасць туалету другога французскага лідэра — шкарпэткі Напалеона Банапарта, якія былі выстаўлены на таргі на аўкцыёне Сотбі. Пару чорных шаўковых шкарпэтак, якія, як мяркуюць, Напалеон насіў на востраве Св. Алены, набыла прадстаўніца музея абутку з канадскага горада Таронта. Яна акуратна сабрала нават пыл, выбіты са шкарпэтак перад аўкцыёнам.

**Асашыэйтэд Прэс.**

Ці з'яўляецца секс саюзнікам інфаркту? Ні ў якім разе — лічаць амерыканскія медыкі, якія правялі назіранне за 858 мужчынамі і жанчынамі, якія перанеслі інфаркт. Статыстыка паказала, што секс становіцца прычынай толькі аднаго працэнта ўсіх інфарктаў, а вось гнеў — ужо двух працэнтаў, фізічнае напружанне — прыкладна чатырох, і чамусьці 10 працэнтаў інфарктаў здараецца, калі чалавек прачынаецца раніцай. Такім чынам, у кожнага ёсць выбар.

**ІТАР—ТАСС**

# МІСІЯ СУСВЕТНАГА БАНКА ІНФАРМАВАЛА БЕЛАРУСЬ АБ ЯЕ ПРАБЛЕМАХ

### 20 мая адбыўся «круглы стол» па праблемах рэфарміравання эканомікі Рэспублікі Беларусь з удзелам прадстаўнікоў Сусветнага банка, Міністэрства эканомікі РБ, беларускага бізнесу

**Удзельнікі «круглага стала» абмяркоўвалі палажэнні даклада, які зрабіў старшы эканаміст упраўлення Еўропы і Сярэдняй Азіі Сусветнага банка Джон Хансэн, пасля вывучэння місіяй банка становішча эканомікі нашай краіны на працягу трох тыдняў.**

Спадар Хансэн адзначыў, што ў апошнія гады ў рэспубліцы назіраецца трывалае зніжэнне канкурэнтаздольнасці беларускіх прадпрыемстваў, а таксама іх складанае фінансавае здароўе. Прадстаўнік Сусветнага банка назваў лічбы гандлёвага дэфіцыту за першы квартал бягучага года. Розніца паміж імпартам і экспартам склала 15—20 працэнтаў валавога ўнутранага прадукту — столькі ж, колькі яна склала за ўвесь мінулы год. Такі ўзровень доўгу маюць самыя бедныя краіны. Па меркаванню Джона Хансэна, гандлёвы дэфіцыт абвастрыўся ў сувязі са зніжэннем усё той жа канкурэнтаздольнасці прадпрыемстваў. Прычыны гэтай з'явы, па меркаванню спадара Хансэна, крыюцца ў зніжэнні эфектыўнасці прадпрыемстваў, палітыкі гандлёвых партнёраў і ў стабільным абменным курсе долара. Калі першыя дзве акалічнасці «маюць элементы праўды», то апошняе палажэнне з'яўляецца вельмі важным. Як лічыць вучоны, Беларусь павінна весці палітыку, якая павысіць канкурэнтаздольнасць беларускіх прадпрыемстваў на сусветным рынку. На думку спадара Хансэна, гэта магчыма толькі пры ўмове змянення палітыкі ў адносінах да курса долара. Беларускія прадпрыемствы не маюць магчымасці канкурыраваць ужо не толькі на знешнім, але і на ўнутраным рынку. Атрыманне крэдытаў не варта разглядаць як выйсце з сітуацыі. Абавязкова ўзнікнуць праблемы з абслугоўваннем доўгу. (Магчыма, таму пра чарговы крэдыт Сусветнага банка размова зараз не вядзецца. Па меркаванню спецыялістаў банка, даваць грошы Беларусі сёння — усё адно, што ліць ваду ў пясок. На думку экспертаў, размеркаванне крэдытаў у рэспубліцы пакуль адбываецца не па прынцыпу эфектыўнасці работы прадпрыемства, а таму банк баіцца, што грошы пойдуць не на тыя прадпрыемствы. Да таго ж, Сусветны банк усё ж з'яўляецца банкам і разлічвае на вяртанне крэдытаў.)

Спадар Хансэн прывёў лічбы па колькасці стратных прадпрыемстваў у рэспубліцы. Калі за мінулы год у прамысловасці налічвалася 600 стратных аб'ектаў, то за першы квартал бягучага года гэты паказчык перавысіў 2 тысячы 800 прадпрыемстваў, пры цяперашніх тэмпах да канца года іх колькасць дасягне 4 тысяч. Гэта мае сур'ёзныя сацыяльныя і эканамічныя наступствы. Да запэўніванняў не хваляваца з нагоды павелічэння вытворчасці незалежныя эксперты адносяцца з насцярожанасцю. Рост вытворчасці не прывёў да паляпшэння становішча прадпрыемстваў — прадукцыя знаходзіцца на складах і, магчыма, не будзе рэалізавана. На думку Джона Хансэна, нават калі і адбудзецца распрадажа таварных запасаў, інфляцыя знішчыць абаротныя сродкі. За першы квартал бягучага года таварныя запасы ў краіне ўзраслі з 7 да 10 трлн. рублёў. Кароткатэрміновае нарошчванне тэмпаў вытворчасці трывалага выніку не дасць. Цікавы той факт, падкрэсліў прадстаўнік банка, што на прадпрыемствы сельскай гаспадаркі, якія займаюць большую вагу ў колькасці стратных прадпрыемстваў, прыпадае толькі дзясятая частка страт. Асноўныя страты накопліваюцца ў прамысловасці.

Па меркаванню эксперта, гэта адбываецца таму, што прадпрыемствы былі скіраваны на экспарт, нават прытым, што неслі страты дзеля захавання рынкаў. Пры гэтым іх жыццядзейнасць падтрымлівалася дзяржавай. Спадар Хансэн бачыць выйсце ў жорсткім бюджэтным абмежаванні. Такі рэжым прымусіць прадпрыемствы рэфарміравацца. Рэформа эфектыўная, калі стымулюецца ініцыятыва прадпрыемства. Без дзяржаўных датацый прамыслоўцы будуць шукаць новыя рынкі збыту прадукцыі, здаваць у арэнду непатрэбныя плошчы, скарачаць колькасць працуючых да неабходнай колькасці, асвойваць новыя тэхналогіі, ствараць сумесныя прадпрыемствы. Фінансавая дысцыпліна будзе садзейнічаць хуткаму адраджэнню эканомікі.

Яшчэ адной важнай умовай спадар Хансэн назваў стварэнне атмасферы для развіцця бізнесу, для чаго неабходна дасканалая прававая галіна. Варта звярнуць увагу на ўжо існуючыя мадэлі законаў у іншых краінах. Замежныя інвестары пойдуць з інвестыцыямі туды, дзе дзейнічаюць ужо вядомыя ім нормы. Сёння ж статыстыка інвестыцый сумная: у некаторыя краіны былога Саюза інвестыцыі складаюць 50 долараў на чалавека, у 1993 годзе прамыя інвестыцыі на аднаго беларуса склалі 1 долар, зараз гэтая лічба роўная 20 цэнтам.

Міністр эканомікі Георгій Бадзей у цэлым пагадзіўся з высновамі місіі Сусветнага банка, аднак выказаў меркаванне, што змяненне абменнага курса — не адзіны сродак павышэння эфектыўнасці эканомікі. На думку міністра, дапамагчы нашай эканоміцы могуць інвестыцыі, якія будуць выкарыстаны на мадэрнізацыю і рэканструкцыю прадпрыемстваў.

Па меркаванню старшыні Саюза прадпрымальнікаў і арандатараў Макса Куняўскага, нам трэба павысіць цэны на энерганосьбіты: рост цаны навучыць эканоміць. Спадзявацца ж на чыю-небудзь дапамогу не варта, пакуль не пачнём прымаць меры самастойна.

Пытанні журналістаў былі даволі вострыя. У прыватнасці, прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі цікавіла, ці існуе ў іншых краінах свету форма прамога прэзідэнцкага кіравання на прадпрыемствах, які курс долара павінен быць у рэспубліцы сёння, ці варта падтрымліваць асобныя галіны вытворчасці. На пытанне аб формах кіравання прадстаўнікі місіі адказалі, што яны бываюць усякія і ім яшчэ давядзецца ўбачыць вынікі гэтай формы; курс долара павінен быць такім, які дазволіць прадпрыемствам павялічыць прадукцыйнасць; прыярытэтныя галіны выявіць канкурэнцыя, а не воля кіраўніцтва.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# НАСТАЎ ЧАС ПАВАЖАЦЬ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

***Даўно мінулі выбарчыя баталіі. У Беларусі выбраны Вярхоўны Савет, і перад пачаткам першай сесіі аналітыкі нямала разважалі аб будучай раскладцы сіл у вышэйшым заканадаўчым органе краіны. Для разнастайных прагнозаў былі дастатковыя падставы, бо большасць дэпутатаў прыйшлі ў парламент пад тымі ці іншымі палітычнымі сцягамі. Аднак ніхто з палітолагаў не ахарактарызаваў Вярхоўны Савет з моўнага пункту гледжання, ніхто не прадказаў, што, вось, маўляў, на беларускай мове ў парламенце будуць выступаць ікс працэнтаў дэпутатаў, на рускай — ігрэк, старшыня пасяджэнні будзе весці на адной мове, аднак у некаторых выпадках будзе выкарыстоўваць і другую. Маўчанне на гэты конт даволі красамоўнае: бо і сёння ніхто не ведае, якую лінію абярэ Вярхоўны Савет у сваіх моўных паводзінах і як гэта лінія адаб'ецца на моўнай сітуацыі ў рэспубліцы.***



Моўныя праблемы існуюць у заканадаўчых органах не ва ўсіх краінах. У германскім бундэстагу дэпутаты выступаюць на нямецкай мове, у расійскай Думе — на рускай, у польскім сойме непадзельна пануе польская мова.

Але не ўсё так проста ў Індыі. Паводле розных крыніц, у гэтай краіне налічваецца ад 180 да 1650 моў і дыялектаў; у адным толькі штаце Біхар жыхары гавораць на 153 мовах. Больш за палову насельніцтва краіны жыве ў нехіндзімоўных абласцях, некаторыя індыйскія мовы добра развітыя і на сваіх тэрыторыях паспяхова канкурыруюць з хіндзі. Таму англійская мова, якую ў вельмі нязначнай ступені ведаюць ва ўсіх рэгіёнах краіны (усяго мовай былой метраполіі валодае не больш пяці працэнтаў індыйцаў), парадаксальным чынам садзейнічае захаванню цэласнасці Індыі. Пасяджэнні ў Народнай палаце краіны вядуцца на хіндзі і на англійскай мове, аднак бывае, што прамовы гучаць і на урду, бенгальскай, тамільскай, тэлугу, іншых мовах.

У Нацыянальнай асамблеі Папуа-Новай Гвінеі выкарыстоўваюць англійскую і мясцовую крэольскую, аднак урад хоча, каб функцыі мясцовай мовы расшыраліся. У краіне ўведзена абмежаванне на ўдзел у выбарах кандыдатаў для асоб, якія не валодаюць крэольскай мовай.

У двухмоўным франка-нямецкім кантоне Валіс (Швейцарыя), выступаючы ў мясцовым парламенце, германа-швейцарцы («калі яны хочуць быць пачутымі»), абавязаны гаварыць на французскай мове. Не ўсім гэта падабаецца, аднак устаноўленае правіла рызыкуюць парушыць вельмі нямногія.

У 1895 годзе на працягу некалькіх месяцаў дзейнасць аўстрыйскага парламента ледзь не была паралізавана з-за «цылейскага пытання» (назва атрымана ад славенскай вёскі Цылей). Як пісалі журналісты, якія прысутнічалі на пасяджэннях, магло здацца, што «будучыня Аўстрыі залежыць ад таго, будзе адкрыта ў Цылеі славенская гімназія ці не». Недахват увагі з боку ўладаў да вырашэння моўных супярэчнасцей прыводзіў да дзяржаўных узрушэнняў і ў іншых выпадках. Так, у 1968 годзе ў Бельгіі прычынай для адстаўкі ўрада паслужыла незадаволенае патрабаванне фламандскіх студэнтаў аб пераводзе франкамоўных аддзяленняў Лювенскага універсітэта ў франкамоўную частку краіны.

❑

Існуючая ў розных краінах моўная сітуацыя не заўсёды была такой, яна змянялася на працягу гісторыі.

Гэта сёння англійская мова папулярная ва ўсім свеце, а ў часы нармандскага кіравання афіцыйнай мовай Англіі была французская. На працягу трох стагоддзяў на туманным Альбіёне на англійскай мове размаўлялі толькі сяляне і слугі, аж да XIX стагоддзя ў вытанчаных французаў яна лічылася вульгарнай мовай. Яшчэ ў 1839 годзе расійскі пісьменнік з беларусаў Тадэвуш Булгарын у сваіх дарожных нататках па Фінляндыі і Швецыі між іншым заўважаў: «Англійская мова для вучонага ёсць раскоша, а нямецкая — неабходная патрэбнасць».

Гэта цяпер чэшская мова даволі развітая — а ў другой палове XVIII стагоддзя значная частка чэшскіх чыноўнікаў не валодала гэтай мовай, на ёй не ўмелі пісаць нават асветнікі Г. Добнер і М. Фойгт, якія стаялі ля вытокаў чэшскага нацыянальнага адраджэння.

У каланіяльнай Індыі першае ўжыванне хіндзі ў сценах Заканадаўчага сходу Злучаных правінцый у 1910-я гады выклікала ў прыхільнікаў англійскай мовы вялікае незадавальненне. Пачаўшы пісаць па-італьянску, Галілео Галілей падвергся нападкам, а ў Расіі ў XVIII стагоддзі з-за адсутнасці ўласнай, добра распрацаванай і зразумелай ўсяму грамадству літаратурнай мовы Пётр I хацеў прызнаць афіцыйнай галандскую мову.

На венскім кангрэсе ў 1815 годзе ў Еўропе было зафіксавана ўсяго толькі 13 дзяржаўных моў, сярод якіх не знайшлося месца фінскай, літоўскай, украінскай, венгерскай, грэчаскай, балгарскай і іншым мовам. Праз сто гадоў, у час падпісання Версальскага мірнага дагавора, усе яны (і беларуская ў тым ліку) былі прызнаны. А вось малдаўская, ісландская, славацкая, славенская, македонская, каталонская, баскская яшчэ не ўдастоіліся такога гонару. Але хто цяпер сумняваецца ў іх існаванні?

Усё цячэ, усё мяняецца.

Зменлівым на працягу гісторыі быў лёс і нацыянальнай мовы беларусаў.

❑

У межы сучаснай Беларусі беларуская мова прыйшла адначасова са з'яўленнем на гэтых землях славянскага насельніцтва. Зразумела, яна тады яшчэ не мела сваёй цяперашняй назвы і крыху адрознівалася ад сучаснай беларускай. Аднак гэта была прамаці той мовы, якую мы ведаем і сёння. Вельмі хутка беларусы пачалі «дзэкаць» і «цэкаць», вымаўляць гукі «ч» і «р» цвёрда, а «г» — працяжна. У X стагоддзі нашы прашчуры прынялі хрысціянства, крыху пазней пазнаёміліся з граматай, і ўжо ў самых першых помніках пісьменнасці адлюстраваліся беларускія моўныя рысы.

Гісторыя беларускай мовы пачынаецца з часоў з`яўлення на беларускіх землях славянскага насельніцтва. У Вялікім княстве Літоўскім яна пранізвала ўсю сацыяльную структуру грамадства і выконвала самыя розныя функцыі, аж да дыпламатычных. (На ёй пісалі дакументы не толькі ў Вільні ці Мінску, але таксама ў Кракаве і Маскве.) Аднак на працягу XVII—XVIII стагоддзяў у афіцыйных зносінах беларуская мова пастаянна «звужалася», уступаючы свае пазіцыі польскай і лацінскай, а пасля ўключэння Беларусі ў састаў Расіі стала зведваць націск рускай мовы.

У пачатку XIX стагоддзя, ледзь не з нуля, калі, здавалася, назаўсёды была забыта эпоха «залатога веку», пачала адраджацца беларуская нацыянальная самасвядомасць. Прафесары Віленскага універсітэта І. Даніловіч і М. Бабруоўскі, польскі мовавед С.- Б. Ліндэ, расійскі вучоны К. Калайдовіч, паэт і фальклярыст Я. Чачот звярнулі ўвагу адукаванага саслоўя на факт існавання ў Беларусі старажытнага, самабытнага народа, што гаворыць на сваёй мове, якая адрозніваецца ад іншых. На новабеларускай мове пачалі паяўляцца першыя літаратурныя творы, рабіліся спробы заснаваць перыядычнае выданне, але ў цэлым XIX стагоддзе зусім не спрыяла беларускаму руху. Дастаткова сказаць, што ў гэты час беларускія кніжкі часцей выдаваліся за мяжой, у эміграцыі, чым у Беларусі. Пасля паўстанняў 1831-га і 1863-га гадоў Беларусь страціла сваю нацыянальную эліту, якая толькі яшчэ зараджалася, і ў канцы XIX стагоддзя староннямy назіральніку магло здацца, што беларусам не суджана будзе адрадзіцца ніколі.

Аднак на рубяжы стагоддзяў беларускі нацыянальны рух зноў становіцца фактарам, які вызначае культурнае развіццё «Паўночна-Заходняга краю». У 80—90-я гады мінулага стагоддзя былі створаны і апублікаваны галоўныя творы Францішка Багушэвіча, тады ж былі напісаны першыя працы заснавальніка беларускага мовазнаўства Яўхімія Карскага. Беларусазнаўства ў гэты перыяд перастала быць лёсам толькі кабінетных вучоных.

Затым быў магутны выкід нацыянальнай энергіі пасля рэвалюцыйных падзей 1905—1907 гадоў, потым настаў кароткачасовы, але выніковы перыяд другой паловы 20-х гадоў... Вяршыняй у грамадскім усталяванні беларускай мовы з'явілася прыняцце ў студзені 1990 года Закона «Аб мовах у Беларускай ССР».

У прэамбуле гэтага дакумента канстатавалася, што ў апошні час пад пагрозай аказалася «само існаванне» мовы карэннага насельніцтва, яна была абвешчана адзінай дзяржаўнай на тэрыторыі рэспублікі.

Уверх (XIV—XVI стагоддзі) — уніз (XVII—XVIII стагоддзі), уверх (1820—1850-я) — уніз (1860—1890-я), уверх (1890—1920-я) — уніз (1930—1980-я). У час дзейнасці Вярхоўнага Савета мінулага скліканя, у 1990—1995 гадах, беларуская мова пачынала займаць належнае ёй месца ў беларускім грамадстве.

Няўжо цяпер нас зноў чакае шлях уніз?

❑

Два гады таму часопіс «Russian Linguistics», які выдаецца ў Галандыі, апублікаваў артыкул аб функцыянаванні ў Беларусі беларускай мовы. Адначасова ў часопісе быў змешчаны матэрыял аб адной з «малых» моў паўвострава Камчаткі. Тлумачачы адхіленні ад профілю выдання (усё-такі яно прысвечана рускай мове, а не беларускай ці чукоцка-камчацкай), рэдакцыя звярнула ўвагу чытачоў на тое, што руская мова адыгрывае « ў жыцці і смерці дзвюх гэтых моў лёсаносную ролю». Лексему «смерць» супрацоўнікі часопіса ўзялі ў дужкі і далікатна суправадзілі яе пытальнікам. Але сутнасць не ў гэтым. Слова ж ужо сказана...

У артыкуле «Моўная сітуацыя ў Беларусі: этычныя калізіі двухмоўя» сцвярджаецца, што беларуская мова «на вачах выцясняецца рускай». Што ў апошні час у гарадах не гавораць па-беларуску. Што «хаатычна русіфікуецца сельская школа», што «ў прадукцыі беларускіх выдавецтваў да 1992 года пераважалі кнігі на рускай мове». Што беларуская мова «не становіцца службовай мовай у большасці ўстаноў, на яе не пераводзяць справаводства, не пераходзяць суды і міліцыя, гандаль і банкі».

Перашкодзіць працэсу памірання мовы можа спецыяльнае заканадаўства. Законы і іншыя нарматыўныя акты, якія рэгулююць моўнае ўжыванне, у апошнія дзесяцігоддзі былі прыняты ў Іраку (дзе з 1974 года на рэгіянальным узроўні стала афіцыйнай курдская мова), у Перу (дзе ў 1975 годзе афіцыйнай была абвешчана практычна беспісьменная мова індзейцаў кечуа), у Францыі, Швецыі, Канадзе, Іспаніі, Кітаі, Люксембургу, Нарвегіі, ва ўсіх без выключэння рэспубліках былога Савецкага Саюза. Па Канстытуцыі Нігерыі 1992 года ў якасці нацыянальных у краіне былі прызнаны мовы хаўса, ігбо і йаруба. У 1994 годзе ў Нацыянальны Савет Славацкай Рэспублікі паступіў законапраект аб дзяржаўнай мове, які прапаноўваў лічыць славацкую мову «сімвалам славацкай дзяржаўнай незалежнасці» і замацаваць яе прыярытэт «перад усімі астатнімі мовамі, якія выкарыстоўваюцца на тэрыторыі Славацкай Рэспублікі».

«Смяротны ракурс сучаснага быцця беларускай мовы разгледзелі ў далёкай Галандыі супрацоўнікі часопіса, якія не маюць адносінаў да беларускага мовазнаўства. Але яго не заўважылі дзяржаўныя дзеячы Беларусі, якія непасрэдна фарміруюць моўную палітыку і якія арганізавалі мінулагодні рэферэндум. Трэба думаць, яны нічога не ведалі пра пагрозу, якая навісла над беларускай мовай.

Альбо прыходзіцца дапусціць, што ў Беларусі няма вучоных, якія маглі б разумна растлумачыць, да чаго прыводзяць неабдуманыя крокі ў моўнай палітыцы?

❑

Не будзем узводзіць паклёп на беларускіх лінгвістаў.

Яны, зразумела, не анёлы. У ранейшыя часы беларускія мовазнаўцы вельмі часта пісалі не тое, што было, але што ад іх патрабавалі. Яны ў многім уступаюць сваім расійскім калегам, мовазнаўцам-русістам, але гэта нядзіўна: бо на працягу дзесяцігоддзяў яны займаліся даследаваннем мовы, якая, калі гаварыць па вялікаму рахунку, дзяржаве была не патрэбна. Не могуць беларускія сацыяллінгвісты пахваліцца асаблівымі дасягненнямі і перад амерыканскімі ці германскімі мовазнаўцамі.

Але ж публікацыя «Моўная сітуацыя ў Беларусі: этычныя калізіі двухмоўя» была не першай і не адзінай, у якой праблемы беларускага моўнага быцця аналізаваліся дэталёва і без замоўчванняў. Яшчэ ў 1989 годзе доктар філалагічных навук А. Булыка ўказваў, што для моўнай сітуацыі Беларусі канца 80-х гадоў было характэрна «найбольшае звужэнне сфер выкарыстання беларускай мовы». Мовавед І. Войніч зафіксаваў, што ў 1987 годзе выдавецтва «Універсітэцкае» выдала рускамоўнай літаратуры ў 124 разы больш, чым беларускамоўнай; «Полымя» — у 382 разы, «Ураджай» — у 533 разы. У сакавіку мінулага года агульны сход Аддзялення гуманітарных навук Акадэміі навук Беларусі выказаўся супраць правядзення ў рэспубліцы рэферэндуму па мове.

Аднак усе гэтыя думкі аказаліся непачутымі. Таварыства беларускай мовы (сярод яго заснавальнікаў лічацца Саюз пісьменнікаў, Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры, Інстытут мовазнаўства і іншыя арганізацыі і ўстановы), якія маюць значны інтэлектуальны патэнцыял, напярэдадні рэферэндуму двойчы звярталася да кіраўніцтва Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі з просьбай прадаставіць эфір, а адзін з намеснікаў старшыні Таварыства, кандыдат філалагічных навук, даў інтэрв'ю для другой праграмы Беларускага радыё. Інтэрв'ю было знята з эфіру, а на афіцыйныя запыты адказам было красамоўнае маўчанне. Затое на тэлеэкране раз-пораз мільгалі актывісты Славянскага сабора, чыя кампетэнтнасць у моўных пытаннях выклікае, мякка кажучы, сумненне.

Атрымліваецца даволі дзіўна. Дзяржава траціла грошы, рыхтавала прафесіяналаў-мовавсдаў — але ў пэўны момант адмовілася ад іх паслуг. Я раблю выснову, што перад плебісцытам адбывалася маніпуліраванне грамадскай думкай, арганізатары рэферэндуму былі зацікаўлены ў тым, каб народ зрабіў неўсвядомлены выбар.

❑

Дзякуючы прыхільнікам «дзяржаўнага двухмоўя», якія не ведаюць сумненняў, у апошнія гады давялося даведацца, што беларуская мова з'яўляецца «рускім дыялектам польскай», а Аўстрыя ўваходзіць у лік посткаланіяльных краін, якія захавалі ў сваім выкарыстанні мовы былых метраполій. Што ў Індыі 800 мільёнаў чалавек гавораць на англійскай мове, што ў амерыканскіх школах можна выбраць любую мову выкладання...

Але хіба ў нас, спытаецца чытач, забаронена каму б там ні было разважаць на любыя тэмы і публікаваць затым свае меркаванні ў выглядзе «друкаванай прадукцыі»? Якая бяда, калі «хтосьці дзесьці ў нас часам» не вельмі моцны ў ведах заканамернасцей моўнага развіцця?

Праблема заключаецца ў тым, што выключна некампетэнтныя меркаванні робяцца ў нас асновай для фарміравання дзяржаўнай палітыкі. Памятаеце, усякія там акадэмікі і дактары не змаглі данесці да выбаршчыкаў свой пункт гледжання? Затое сярод тэм, падрыхтаваных напярэдадні рэферэндуму ў высокіх кабінетах і рэкамендаваных работнікам радыё для ўзмоцненай прапаганды, значыліся і такія: «Ці родная для беларусаў руская мова?», «На якой мове гаварыў Скарына?» («Сталіца», 12 мая 1995 года).

❑

У залежнасці ад накіраванасці вучоныя выдзяляюць два віды моўнай палітыкі: перспектыўную і рэтраспектыўную. Перспектыўная палітыка накіравана на змяненне ўзнікшай сітуацыі, садзейнічае вылучэнню на ролю макрапасрэдніка мову, выкарыстанне якой абмяжоўвалася. Рэтраспектыўная палітыка прадугледжвае захаванне існуючай іерархіі моў насуперак стыхійнай тэндэнцыі змяніць іх функцыянальныя суадносіны.

Задумаў неяк выкладчык Лонданскага універсітэта, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Джым Дзінглі выдаць у Англіі падручнік па беларускай мове для англамоўных. Ён сабраў разам граматычныя правілы беларускай мовы, склаў практыкаванні да іх, асаблівую ўвагу ўдзяліўшы камунікатыўнай арыентацыі падручніка: у ім павінны былі быць прадстаўлены розныя жыццёвыя сітуацыі і дыялогі. Прадугледжвалася, што дапаможнікам будуць карыстацца не толькі студэнты, але таксама і бізнесмены, турысты.

Не вельмі даўно прыйшла вестка, што падручнік друкавацца не будзе. Выдавецтва скасавала заключаны раней кантракт, і Джым Дзінглі пагадзіўся з такім вердыктам. «Я не бачу, у якой сітуацыі замежны турыст мог бы ў вас сёння карыстацца беларускай мовай без рэплік у свой адрас», — сказаў вучоны ў інтэрв'ю адной з беларускіх газет.

Паўстае далікатнае пытанне.

А што, год ці два назад лонданскі прафесар не падазраваў, што ў таго, хто будзе карыстацца яго дапаможнікам, могуць узнікнуць такія ўскладненні? Лічу, падазраваў. Джым Дзінглі займаецца беларускай мовай даўно, у адрозненне ад некаторых беларускіх дзяржаўных дзеячаў умее на ёй размаўляць і пісаць, адэкватна ацэньвае моўную сітуацыю ў Беларусі. Але ён рыхтаваў свой падручнік «на вырост», працаваў на перспектыву.

Прапанаваўшы моўны рэферэндум, беларуская дзяржава прадэманстравала, што перспектывы развіцця беларускай мовы яе мала цікавяць. Так што рэакцыю за Ла-Маншам трэба ацэньваць як заканамерную. З мінулай восені ў Лонданскім універсітэце больш не чытаецца курс беларускай мовы. Універсітэцкае начальства прыняло такое рашэнне, нават не абмеркаваўшы гэта пытанне з выкладчыкам-беларусазнаўцам. Джым Дзінглі лічыць, што і тут паўплываў мінулагодні рэферэндум: «Калі самі беларусы не адчуваюць вострай патрэбы ў сваёй мове, то чаму мы павінны яе вывучаць і даследаваць?»

Сумныя весткі такога роду пакуль не паступалі з Польшчы, Аўстрыі, Чэхіі, Германіі, ЗША, Венгрыі... Пакуль?

❑

А сапраўды: чаму беларусы не адчуваюць вострай неабходнасці ў сваёй мове, а, дапусцім, англічане — адчуваюць? Чаму цэняць нацыянальную мову французы? Чаму ганарацца сваёй мовай немцы, кітайцы, іспанцы?

«Во загнуў, — скажуць мне. — Хіба можна параўнаць беларускую мову з сусветнымі, на якіх гавораць дзесяткі, а то і сотні мільёнаў чалавек? Наша мова не можа раўнавацца з іншымі, ёй лёсам наканавана адысці ў нябыт».

Але чаму, даведваюся з адной замежнай кніжкі, вельмі цэняць сваю мову грэнландскія і канадскія эскімосы? Яны не згаджаюцца з выцясненнем іх мовы і прымаюць спецыяльныя меры, каб забяспечыць яе выжыванне і развіццё. Чым эскімоская мова, якая мае ў сукупнасці сто тысяч носьбітаў, мова, у якой адсутнічаюць нават спецыяльныя словы для абазначэння такіх паняццяў, як «раніца» і «ноч», лепшая за беларускую?

Чаму з 1980 па 1990 год ужыванне ў Намібіі мовы авамба (у тым ліку, напрыклад, у сферы кіравання, у банкаўскай сістэме) рэзка ўзрасло? За гэты ж час прымяненне ў краіне мовы афрыканас (насуперак назве ў сваёй аснове яна — еўрапейская, належыць да германскай групы моў) скарацілася з 79 да 13 працэнтаў, а англійскай — з 52 да 29-ці.

І ўсё ж: дзе месца беларускай мовы ў сусветнай лінгвістычнай іерархіі? Там, дзе руская, польская, украінская, чэшская, літоўская, казахская, нямецкая, галандская, венгерская?..Ці разам з эфіопскімі квегу і шабо, якіх ужо няма? Заадно з угандыйскім куліякам і расійскім ітэльменскім? У адной кампаніі з кітайскай народнасцю гэлао, у якой гэлао-кітайскае двухмоўе ў значнай ступені ўжо перайшло ў аднамоўе на кітайскай мове? Гэта значыць на моўных могілках.

Індыйскі пісьменнік Рабіндранат Тагор пісаў: «Кожная нацыя ў свеце павінна альбо вырашаць свае ўласныя праблемы, альбо пацярпець паражэнне і змірыцца з дэградацыяй. Ні адна сапраўдная цывілізацыя не была створана без цяжкасцей. Людзям, у якіх ёсць рэкі, што забяспечваюць іх вадой, можна толькі пазайздросціць. Але тыя, у каго няма рэк, павінны капаць калодзежы і шукаць ваду ў нетрах зямлі».

Лічу, што ў бліжэйшай будучыні жыццёвасць беларускай дзяржаўнасці будзе падвергнута праверцы, прычым нямала будзе залежаць і ад таго, як зможа Вярхоўны Савет Беларусі вырашыць лёс нацыянальнай мовы беларускага народа.

❑

Усяму свой час, і час усякай рэчы пад небам, — сцвярджае мнагамудры Еклезіяст. — Час нараджацца, і час паміраць; час садзіць, і час вырываць пасаджанае. Час забіваць, і час лячыць; час разбураць, і час ствараць...

Не трэба думаць, што вынікі мінулагодняга плебісцыту «абсалютна і бясспрэчна» засведчылі волевыяўленне беларускага народа. Міне час, падзьмуць веснавыя вятры, і вось тады паглядзім, як гаварыў рускі класік, што яшчэ скажуць беларусы самі.

**Сяргей ЗАПРУДСКІ,**
**эксперт «Звязды»**
**па моўных пытаннях.**




# ЭКАЛОГІЯ - ЧАЛАВЕК

**СПЕЦВЫПУСК «ЗВЯЗДЫ» І МІНІСТЭРСТВА ПРЫРОДНЫХ РЭСУРСАЎ І АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

*23 мая 1996 года* **№ 2(6)**


## 5 чэрвеня — Сусветны дзень аховы навакольнага асяроддзя

# НІГІЛІЗМ

**Многіх з нашых суграмадзян у хуткім часе можна будзе выпускаць на прыроду і «пленэр» толькі ў суправаджэнні міліцыі. На першы раз — міліцыі экалагічнай**

*Уважліва глянем на змешчаную карыкатуру, якой ужо дзесяткі гадоў «ад роду». Можна не сумнявацца, што яна дакладна адлюстроўвала адносіны пэўнай часткі грамадства таго часу да прыроды. Але хто скажа, што ілюстрацыя не актуальная і ў наш час?*

*«Шмат працуе міліцыя...» Стан спраў на экалагічнай ніве цяпер такі, што, сапраўды, без міліцыі ніяк не абысціся — напрыклад, эколагаў у міліцэйскіх пагонах. З гэтай яскравай дэталі нашых дзён і пачалася размова журналіста з намеснікам старшыні Мінскага абласнога камітэта па экалогіі Валерыем МЯДЗВЕДЗЕВЫМ.*

**— Заўважана: пры ўсім нігілістычным адмаўленні прыродаахоўных нормаў і правілаў парушальнікі іх, тым не менш, перад работнікамі экалагічнай міліцыі ў абарону сваіх «правоў» гучна не выступаюць, а плацяць штрафы хуценька і з гатоўнасцю. Значыць, «паважаюць».**

**Як, дарэчы, вы, Валерый Сцяпанавіч, ставіцеся да вопыту работы экалагічнай міліцыі ў Мінску?**

— Вельмі станоўча. Мы яго ўважліва вывучылі і хацелі б прымяніць у некаторых мясцінах вобласці.

Наколькі вядома, у гэтым падраздзяленні працуе звыш 20 чалавек, фінансуецца ж яно, падкрэслю, з пазабюджэтнага фонду — на яго ўтрыманне ідзе 1 мільярд рублёў у год. Наколькі я ведаю, вынікі яго дзейнасці такія: летась міліцыянеры-эколагі склалі пратаколаў за разнастайныя парушэнні і налажылі штрафаў на суму прыкладна 900 мільёнаў. Так што з эканамічнага боку яны сябе ўжо «апраўдалі». Прыплюсуем яшчэ і многае тое, што імі зроблена для інфармавання насельніцтва, умацавання экалагічнай дысцыпліны ў сталіцы, папярэджання магчымых парушэнняў і экалагічнага ўрону, які, у адваротным выпадку, мог бы скласці суму з многімі нулямі.

**— Аднак трэба прызнаць: раз-пораз чуюцца нездаволеныя галасы — навошта, маўляў, усе гэтыя новаўвядзенні? Няхай міліцыя ідзе лавіць зладзеяў. Зрэшты, праціўнікаў новага заўсёды хапала...**

— Не думаю, што хто-небудзь збярэцца экалагічную міліцыю ліквідоўваць-расфарміроўваць. Упэўнены, такі від прыродаахоўных органаў вельмі патрэбны — і не толькі ў сталіцы, абласных цэнтрах, але і ў такіх месцах, дзе на прыроду ціснe моцны прэс з боку чалавека, маецца вялікая антрапагенная нагрузка.

Пра што гаворыць вопыт ужо крыху іншага плана? У свой час яшчэ старым урадам была рэалізавана добрая ідэя — сваім распараджэннем ён утварыў падраздзяленне экалагічнай міліцыі ў саставе некалькіх чалавек на возеры Нарач, і яно ўвайшло ў састаў Мядзельскага РАУС.

Але што атрымалася? Кіраўніцтва раённай міліцыі, улічваючы крымінагенную абстаноўку, вельмі абрадавалася такой дапамозе. Калі спачатку новая група аказвала падтрымку мясцовым прыродаахоўным органам, то праз нейкі час яна поўнасцю пераключылася толькі на міліцэйскую работу — яе, зразумела, заўсёды хапае. Віна ж абласнога камітэта ў тым, што мы поўнасцю не правялі сваю экалагічную лінію. Справу, аднак, можна яшчэ паправіць.

**— Антрапагенная нагрузка... Як сказаў калісьці класік, антропас (ці чалавек) — гэта гучыць горда! Вельмі «горда» — асабліва калі ўгледзецца ў карыкатуру.**

**Абстаноўка ж на Нарачы, беларускай жамчужыне, сёння проста палохае, і не толькі слабанервовых. Тагачаснага стыльнага хлопца з бутэлькай яшчэ можна было «прышчучыць». А як справіцца з кампаніяй «крутых», якія налятаюць сюды на «БМВ» і «мерседэсах»? Няўжо дзяржава падняла перад імі лапкі ўгору? Ці справімся з нашэсцем гэтай шкоднай саранчы?**

— Прапаную глянуць на сітуацыю шырэй. Былыя саюзныя здраўніцы па вядомых прычынах для многіх з нас практычна «зачыніліся». Што засталося ў Беларусі? Нарач ды Браслаўскія азёры. Адсюль — масавы наплыў адпачываючых, асабліва «неарганізаваных».

Насельніцтва прылеглых да Нарачы вёсак і пасёлкаў летам павялічваецца ў 10—15 разоў — і гэтым для прыроды сказана ўсё. Жывуць у хатах, у палатках і наогул пад кустамі. Злятаюцца сюды і бамжы, падазроныя тыпы і наогул крымінальны элемент.

Кідаюць смецце, шклянкі, бутэлькі (давайце яшчэ раз глянем на карыкатуру). Разводзяць у прыбярэжнай зоне вогнішчы — ці далёка да пажару? Больш «салідныя» заганяюць «мерседэсы» прама ў возера, мыюць іх — плывуць па вадзе бензінавыя плямы. Што могуць зрабіць адзін-два работнікі экалагічнай службы, няхай нават і ў міліцэйскай форме, з вялікімі групамі «крутых і нахабных», якія іншы раз не без зброі?

Рашэнне, думаецца, усё тое ж — стварэнне ў такіх месцах моцных падраздзяленняў экалагічнай міліцыі, добра аснашчаных і ўзброеных.

Аднак гэта толькі частка рашэння. У цяперашнім Кодэксе аб адміністрацыйных правапарушэннях да нядаўняга часу па пэўных прычынах не знайшлі адлюстравання некаторыя нормы адказнасці за «нетыповыя», скажам так, парушэнні прыродаахоўных правілаў і патрабаванняў. Цяпер усё папраўлена — Вярхоўны Савет прыняў станоўчае рашэнне аб унясенні змяненняў і дапаўненняў ва ўпамянёны кодэкс. Прыродаахоўны кантроль можа цяпер дзейнічаць больш упэўнена.



*Кукрыниксы. ВОТ В БОРЬБЕ С ТАКИМИ ЛИЦАМИ МНОГО ТРУДИТСЯ МИЛИЦИЯ.*

**— Запішам у актыў — адзін прабел ліквідаваны. Але ж калі на месцах не будзе прадстаўлена «дзяржаўная сіла», то і закон сілы там мець не будзе. Экалагічная ж міліцыя ў буйных зонах адпачынку з'явіцца не сёння. На што, Валерый Сцяпанавіч, будзем разлічваць?**

— Пакуль выручае такая форма экалагічнага кантролю, як рэйды. Улічваючы крымінагенную сітуацыю, мы іх праводзім толькі з удзелам міліцыі, паколькі работнікі прыродаахоўных органаў практычна не абаронены ад замахаў з боку розных бракан'ераў і ўсіх гэтых «крутых». І ў гэтай сітуацыі, паўтаруся, менавіта экалагічная міліцыя плюс новы Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях дадуць нам пэўную магчымасць навесці парадак.

**— Думаецца, не будзе перабольшаннем зрабіць выснову: Нарач — гэта той асялок, які пакажа, ці зможа дзяржава абараніць прыроду ад сучасных экалагічных нігілістаў і вандалаў. Хоць, зразумела, хапае ў рэгіёне і іншых прыродаахоўных праблем.**

— Праблемы, зразумела, могуць быць самыя розныя, аднак падаплёка ў многіх з іх адна — усё ідзе ад бескультур'я, душэўна-экалагічнай глухаты.

У зоне Нарачы маецца заказнік рэспубліканскага значэння «Блакітныя азёры». Там пракладзены турысцкія машруты, экалагічныя сцежкі, арганізаваны пляцоўкі для аўтамабіляў і месцы для развядзення кастроў, пабудаваны навесы, сталы і іншае. Заўважце, абласны камітэт кожны год затрачвае вялікія сродкі для арганізацыі цывілізаванага адпачынку нашых грамадзян. А чаму — кожны год?

Вельмі дзіўная карціна, калі не сказаць больш, назіраецца ў паводзінах нашых людзей: усё зробленае пастаянна высякаецца, расцягваецца, спальваецца. Дзе ж тут рахманасць і разважлівасць беларускага характару?

**— Сапраўды, Валерый Сцяпанавіч, — гэта тэма для спецыяльнага даследавання. А пакуль так і хочацца да кожнага такога «культуртрэгера», які накіроўваецца ў адпачынак, прыставіць «асабістага» міліцыянера. І возеру, і лесу будзе палёгка.**

**Можна, дарэчы, уявіць: калі ўжо падпальваюць лес у такім святым месцы, як Нарач, то што робіцца ў «звычайных» мясцінах...**

— Робіцца тое, што на афіцыйнай мове называецца загараннем лесу. Цёплы сезон пачаўся параўнальна нядаўна, а на тэрыторыі вобласці зафіксаваны ўжо сотні падобных выпадкаў. Вялікая шкода наносіцца ў выніку прымянення так званых палаў, калі «гаспадарнікі» падпальваюць сухую леташнюю траву, і агонь перакідваецца на лес. Лавілі і штрафавалі нямала аматараў такога роду дзікіх «ілюмінацый» у Вілейскім, Смалявіцкім, Клецкім, Маладзечанскім, Любанскім і іншых раёнах.

Больш бязладнага і шкоднага «спосабу» гаспадарання я не ведаю. Як не зразумець: агонь жа забівае і насякомых, і насенне травы, і яе карані — увесь мікрасвет на дадзеным участку. Застаецца толькі попел, своеасаблівы «маленькі Чарнобыль».

Ці лёгка перавыхаваць чалавека, які «ўзмужнеў» ва ўпэўненасці, што прырода для яго — толькі майстэрня ці наогул пляцоўка для адходаў? Сусветная практыка, якую і мы цяпер пераймаем, паказвае: экалагічная адукацыя, прывіванне любові да прыроды павінны пачынацца з дзіцячага садка, са школы. Што, са свайго боку, мы і робім, выхоўваем моладзь. Думаю, што пры такім выхаванні сённяшняе падрастаючае пакаленне будзе адносіцца да навакольнага асяроддзя, у якім жыве, крыху інакш, чым іншыя нашы дарослыя грамадзяне.

Жывучы ў прыродзе — не будзь да яе жорсткім! Пра гэта ў чарговы раз нам і напамінае Сусветны дзень аховы навакольнага асяроддзя. Гэта зусім не проста «прахадная» дата, а падстава зноў задумацца над тым, у якім складаным і не такім ужо трывалым свеце мы, людзі, жывём.

**Гутарыў Валянцін ЕЛІСЕЕЎ.**

*АНОНС*

## БЕЗ ВАДЫ — І НІ ТУДЫ, І НІ СЮДЫ

**У Мінску з 20 па 24 мая праходзіць міжнародная навукова-тэхнічная канферэнцыя «Водныя рэсурсы і ўстойлівае развіццё эканомікі Беларусі»**

У рэспубліцы сёння існуе, вобразна кажучы, шмат «відаў» крызісу. А вось «воднага крызісу» няма — вады хапае пакуль і насельніцтву, і прамысловасці. Многае для гэтага зрабіў менавіта калектыў Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута комплекснага выкарыстання водных рэсурсаў (ЦНДІКВВР), які за 35 гадоў дзейнасці распрацаваў нямала праектаў, што мелі прынцыповае значэнне для ўстойлівага развіцця галіны.

Прыйшлі, аднак, новыя часы, паўсталі новыя задачы. У тым ліку і перад калектывам навукова-даследчага інстытута — галоўным, скажам так, «вадзянікам» рэспублікі.

На міжнароднай канферэнцыі, якая прымеркавана да 35-годдзя ЦНДІ комплекснага выкарыстання водных рэсурсаў, шырока прадстаўлены матэрыялы не толькі яго распрацовак, але і іншых арганізацый рэспублікі, многіх краін блізкага замежжа, абмяркоўваюцца вопыт вырашэння актуальных водных праблем, практыка рэгулявання выкарыстання і аховы вод, навуковыя напрацоўкі па многіх пытаннях галіны. Усё гэта ўяўляе немалую цікавасць для Беларусі.

(Матэрыялы па некаторых з вышэйназваных праблемах чытайце на 2-й і 3-й старонках спецвыпуску.)

*ЭКОЛАГІ ЎСЯГО СВЕТУ, ЯДНАЙЦЕСЯ!*

# СВЕТ, БЯСПЕЧНЫ ДЛЯ ЧАЛАВЕКА

## З 20 ПА 25 МАЯ Ў СТАЛІЦЫ БЕЛАРУСІ ПРАХОДЗІЦЬ 2-І МІЖНАРОДНЫ ТЭЛЕФОРУМ «ЭКАСВЕТ-96»




**Маштаб экалагічных пагроз, якія навіслі над планетай Зямля, адных палохаюць, другіх чамусьці пакідаюць раўнадушнымі, а трэціх падштурхоўваюць да актыўных дзеянняў. Да ліку гэтых «трэціх» адносяцца ў першую чаргу тыя, хто арганізаваў фестываль тэлефільмаў экалагічнай накіраванасці. Як і тыя, хто прывёз «з-за мораў» свае работы, хто падтрымаў гэтую акцыю матэрыяльна і садзейнічаў ёй.**

Пра тое, як летась праходзіў 1-ы тэлефорум, «Звязда», іншыя айчынныя выданні пісалі дастаткова. Нямала было сказана пра гэта і ў замежных, у прыватнасці заходніх, сродках масавай інфармацыі. Танальнасць публікацый у газетах Захаду была адзіная: падкрэсліваючы ўсю важнасць мерапрыемства, яны асабліва адзначалі тое, што Беларусь — першая і адзіная пакуль краіна з рэспублік былога Саюза, якая здолела правесці такое экалагічнае дзейства ў «жывых карцінах», і гэта тым больш пераканаўча, што яно праходзіла пад эгідай Еўрапейскага года аховы навакольнага асяроддзя.

У Савеце Еўропы ініцыятыва арганізатараў тэлефоруму «Экасвет-95» незаўважанай не засталася, і ён аказаў садзейнічанне ў правядзенні тэлефестывалю «нумар два». У многім дзякуючы такой уплывовай падтрымцы і прайшоў учора ў рамках праграмы «Экасвету-96» міжнародны «круглы стол-дыскусія» на тэму «Чалавек. Экалогія. Маральнасць».

... Тым часам у зале прагляду ў мінскім гатэлі «Беларусь», падпарадкоўваючыся загадзя спланаванай «чарзе», стужкі выходзяць на тэлеэкраны. Усяго прадстаўлены 52 фільмы з 21 краіны свету. З'явіліся і новыя ўдзельнікі, якіх не было летась: свае работы прадставілі і аўтары з Даніі, ЗША, Албаніі. Увесь, вобразна кажучы, тэлекалейдаскоп прадстаўляе найшырэйшую панараму прыроднага стану сучаснага свету — што чалавек нарабіў у прыродзе ў выніку сваёй «звышразумнай» дзейнасці. Практычна на ўсіх кантынентах нашага агульнага дома па імені Зямля.

Гэтыя фільмы, што не менш важна, даносяць да ўсіх нас і вопыт многіх дзяржаў, якія ва ўмовах тэхнічна-прамысловага прагрэсу і урбанізацыі знаходзяць магчымасці для змяншэння націску на прыроду. Калі ж гэтага не адбываецца, то тэлефільмы набываюць не проста крытычны, а нават самакрытычны характар...

Рэжысёр Гары Джонстоўн і Герберт Жырадэ, аператар Крыс Сміт прывезлі з Англіі стужку, з дапамогай якой даказваюць: Лондан, самы вялікі горад Еўропы, штодзень паглынае велізарную колькасць прыродных рэсурсаў, не хвалюючыся аб тым, адкуль іх браць потым і куды ў далейшым дзяваць адходы. Аўтары ж фільма паказваюць, куды ўсё гэта «дзяваецца».

Нездарма, аказваецца, англічане называюць свой галоўны горад «монстрам», які ўласнымі адходамі можа загубіць і сябе, і сельскія тэрыторыі, суседнія графствы. Велізарныя аб'ёмы гэтых адходаў якраз туды з Лондана і вывозяцца.

У Беларусі, вядомая справа, ні графаў, ні графстваў няма. Ды і Мінск на фоне памераў Лондана выглядае ўвогуле сціпла. А праблемы выжывання горада ў прынцыпе тыя ж самыя, дастаткова зазірнуць на мінскія задворкі...

Не будзем далей пераказваць змест іншых прадстаўленых тэлефільмаў, гадаць, якія з іх стануць пераможцамі фестывалю. Гэта справа членаў міжнароднага журы тэлефоруму «Экасвет-96», якой яны і зоймуцца ў апошні дзень яго работы. Пакуль жа даём слова некаторым паважаным «суддзям».

**Павал ЛІМ,** ***генеральны дырэктар міжнароднага фестывалю «Экатапфільм», Браціслава, Славакія:***

— Можна шмат чаго ўспомніць з уласнай практыкі. Спынюся на такім прыкладзе.

Гэта было тры-чатыры гады таму назад, на адным з фестываляў фільмаў, якія мы, дарэчы, праводзім у сябе ў Браціславе ўжо 23 гады. Зала тады была абсалютна поўная, сабралася прыблізна чалавек семсот — вучоныя, спецыялісты, практыкі-эколагі.

Міністр экалогіі нашай рэспублікі мне тады здзіўлена сказаў: «Як гэта вы змаглі «сагнаць» на мерапрыемства столькі людзей?»

На што я адказаў: «Цяпер ужо не той час, каб можна было людзей «зганяць». Яны з вялікай ахвотай прыйшлі самі, таму што ёсць асабістая цікавасць і жаданне атрымаць экалагічныя веды, інфармацыю з усяго свету».

Так што, як ні сумна, але менавіта на ўзроўні высокага начальства іншы раз і няма дакладнага ўяўлення, што такое экалогія. Ці не таму прымаецца нямала эканамічных, вытворчых рашэнняў, якія ў выніку шкодзяць і прыродзе, і чалавеку? А таму значэнне такіх акцый, як тэлефорум у Мінску, цяжка перааацаніць.

**Наталля ВЕЛІКОДНАЯ,** ***член Міжнароднай арганізацыі журналістаў-эколагаў пры ЮНЕСКО, Масква:***

— Ужо працяглы час я вывучаю праблему радыеактыўнага забруджвання ў рэспубліках былога Саюза, а цяпер — у краінах СНД. Маюцца на ўвазе не толькі вынікі Чарнобыля, але і тое, што адбываецца вакол «простых» аб'ектаў ядзернай вытворчасці — у Томску, Краснаярску, Чэлябінску, дзе была калісьці зроблена першая савецкая атамная бомба.

У наваколлі ж усіх гэтых заводаў і палігонаў жывуць людзі — яны ад уздзеяння радыяцыі пакутуюць, хварэюць, заўчасна паміраюць. І такіх, хто церпіць, ужо больш як 10 мільёнаў! Калі так пойдзе і далей, то лічба можа зраўнавацца з колькасцю ахвяр другой сусветнай вайны.

Грамадства абавязкова павінна ведаць такую інфармацыю, каб усе разам мы шукалі адказ: як нам жыць далей? Тэлефорум «Экасвет-96» якраз і працуе на вырашэнне гэтай высакароднай задачы.

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

ЭКАЛОГІЯ НА ВАЕННЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# АРМЕЙСКІЯ І ЦЫВІЛЬНЫЯ: «АД ЗВАННЯ «ГАСПАДАР» — АДМАЎЛЯЕМСЯ»

**Дзіўна ўсё ж, наколькі гібкі гэты чыноўніцкі люд! Наколькі хутка «перабудоўваецца»! Не прайшло і тыдня пасля падпісання з Расіяй вядомых пагадненняў, у прыватнасці «нулявога варыянта», як у гэтым асяроддзі пайшлі глыбакадумныя выказванні: цяпер ракетныя стратэгічныя войскі Расіі з баз у Беларусі, маўляў, не трэба і выводзіць, ды і іншыя вайсковыя часці ўсходняга суседа, магчыма, вернуцца назад. І навошта было, ці бачыце, узнімаць перад Расіяй пытанне аб кампенсацыі экалагічнага ўрону, нанесенага расійскімі войскамі беларускай зямлі?**

**Карані гэтых настальгічных думак вядомыя, няхай іх носьбіты імі і цешацца. Мы ж вернемся ў суровую рэальнасць і напомнім: пасля гэтых «варыянтаў» Беларусі прыйдзецца самастойна, у адзіночку расхлёбваць усю гэту ваенна- экалагічную кашу. А такіх «кропак», пакінутых расійскімі вайскоўцамі, у рэспубліцы сотні. Да таго ж высветлілася, што экалагічныя пытанні тут цесна перапляліся з праблемамі эканамічнымі, гаспадарчымі, сацыяльнымі — завязаўся тугі вузел.**

**Усё гэта і прымушае працягнуць размову, пачатую ў спецвыпуску «Экалогія — чалавек» N 1 ад 30 сакавіка гэтага года.**

## БАБРУЙСКАЕ ЮНЕСКО І ІНШЫЯ...

Прыкладна года паўтара таму назад у Петрыкаўскім раёне была ўзбуджана крымінальная справа — па факту раскрадання маёмасці з былой ракетнай базы, якую расійскія войскі ўжо ў асноўным пакінулі. Праўда, дасведчаныя людзі ўпэўнена заяўляюць: цяпер ужо нельга вызначыць, хто там усё расцягнуў і раскраў — ці расійскія ці беларускія ваеннаслужачыя, ці мясцовыя жыхары, ці яшчэ нехта. Такая была «ахова» каштоўнага аб'екта.

Супрацоўнік Нацыянальнага агенцтва па кантролю і інспекцыях Міністэрства абароны Беларусі палкоўнік Пётр Цюеў прыгадаў:

— Будынкі базы прапанавалі ва ўласнасць акцыянернаму таварыству «Белаграфарміндустрыя», якое збіралася наладзіць там перапрацоўку лекавых траў. Не атрымалася — і «новыя гаспадары» ад аб'екта адмовіліся. Два месяцы яе ахоўвалі расіяне, але ж ім трэба было ад'язджаць. Прыйшлося ўзяць гэты цяжар на сябе Мінабароны Беларусі. Такая практыка склалася паўсюдна: як толькі ў такіх ваенных гарадкоў гаспадароў не знаходзіцца, іх адразу перадаюць пад ахову нам. А грошай на гэта ў міністэрства зусім няма.

А хто, дарэчы спытаць, павінен пакінутыя гарадкі ахоўваць? АМОН? Сапраўды, яго байцы ахоўвалі летам 1994 года базу абслугоўвання авіягарнізона ў Бабруйску, калі там ішла адгрузка ракетнага паліва. І толькі таму, што гэтага дабіўся начальнік мясцовай горрайінспекцыі па экалогіі В. Піліпенка, калі ўгледзеў, што раней ля ёмістасцей са страшэнна ядавітым рэчывам не было ні душы, — ці далёка да бяды? Ён жа потым і дабіўся, каб на варту туды паставілі тых, чый гэта і быў аб'ект, — менавіта ваеннаслужачых.

Такім чынам, праблема вызначылася: і ахоўваць многія дзесяткі пакінутых ваенных гарадкоў няма магчымасці, і жадаючых з грамадзянскага, так сказаць, асяроддзя ўзяць іх пад сваю апеку асабліва не відаць, бо гэты смелы крок патрабуе велізарных грошай.

Калі такія і знаходзяцца... Сумніўная камерцыйная структура з Бабруйска з фантастычнай назвай — ЮНЕСКО (!) прад'явіла свае правы на каласальную па магутнасці і выдатную па абсталяванню базу ГЗМ «Ваеннага гарадка-6». А што такога, калі гарадскія ўлады пагадзіліся?

І вось ужо аўтар на свае вочы бачыць, як на тэрыторыю базы заязджае магутны «МАЗ»-цягач, і няголеныя хлопцы з фінгаламі пад вачамі пачынаюць грузіць на яго з дапамогай крана новенькія цыстэрны. Без пытання наша рэйдавая брыгада, зразумела, не абышлася.

— А гэта нашы ёмістасці, далібог! Самі іх сюды прывезлі, а цяпер адвозім, — быў адказ.

Ідзі правер, што тут сваё, а што чужое. Якія могуць быць інтарэсы на ваеннай базе ў падазроных камерсантаў з падбітымі вачамі?

— Мне думаецца, — ацаніў выдатныя збудаванні галоўны эколаг горада Валянцін Піліпенка,— што гэты комплекс можна было б выкарыстаць як гарадскую нафтабазу, бо старая эксплуатуецца больш як сорак гадоў і апынулася амаль у цэнтры горада, у небяспечным месцы, а ёмістасці там ужо вельмі старыя і таксама небяспечныя. Хто павінен вырашаць пытанне? Лічу, што кіраўніцтва горада. Тым больш, што тут з пункту гледжання экалогіі не так ужо многа трэба папрацаваць.

Такім чынам, прапанова зроблена, што адкажа мясцовая «вертыкаль»?

... На ўпамянёнай ужо базе ГЗМ адчуваўся хоць і «камерцыйны», але ўсё-такі нейкі чалавечы рух. Затое база «Белы Бераг», дзе калісьці захоўвалася тэхніка былой дывізіі проціпаветранай абароны, пагрузілася ў глыбокую спячку. Вакол ні душы; нікому не патрэбны 50 вялізных боксаў, у кожным з якіх — па 20 адсекаў, дзе ўвогуле можна захоўваць 1000 адзінак разнастайнай тэхнікі.

Нікому не патрэбны? Хто-ніхто, па ўсім відаць, тут пабываў ужо — відаць выламаныя аконныя рамы, разламаная агароджа. Як жа можа быць інакш, калі ў боксаў — ні вартавых, ні гаспадароў. Праз два-тры гады тут можа скончыцца тым, што ўсё наяўнае багацце прападзе. Ды хіба толькі тут?

Словам, маем праблему каласальнай важнасці для рэспублікі, бо размова ідзе аб амярцвлёных каштоўнасцях на сотні мільёнаў долараў. Такія аб'ёмы сродкаў для новага будаўніцтва нам ужо ніколі не знайсці. Вось чаму выклікае здзіўленне яўна не спланаваная дзейнасць Дзяржаўнай камісіі па выкарыстанню выслабаняемых ваенных гарадкоў.

Міністр абароны генерал-лейтэнант Леанід Мальцаў у час «прамой лініі» з чытачамі «Звязды» (матэрыял змешчаны ў газеце 4 студзеня г. г.) выказаўся на гэты конт прыкладна так: каб задзейнічаць ваенныя гарадкі, трэба разгортваць нейкую вытворчасць, магчыма, здаваць у арэнду і г. д. А гэта ўжо функцыі не Мінабароны, а дзяржавы. Пасля адпаведнага распараджэння Прэзідэнта ўрад прыняў рашэнне, па якому некалькі гарадкоў перададзены іх гаспадарам.

Дык што, працэс, як кажуць, «пайшоў»? Але ж ён можа ісці і ў адваротны бок: нездарма ж такая магутная арганізацыя, як Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, практычна адмовілася ад усіх такіх аб'ектаў, якія раней прыняло. Прычына ўсё тая ж — фінансавая.

## ФЕКАЛІІ — МАТЭРЫЯ «ТОНКАЯ»

Цікавая настала ў нас «эпоха»: адны з усяе сілы «цягнуць» нерухомую маёмасць да сябе (як гэта адбываецца, напрыклад, у Мінску), а ў іншых месцах імкнуцца ад яе пазбавіцца.

— Напэўна, праз нейкі час кватэрна-эксплуатацыйнае ўпраўленне (КЭУ) у міністэрстве скасуюць, — праінфармаваў палкоўнік П. Цюеў. — Свае аб'екты камунальнай і сацыяльнай сферы будзем перадаваць у веданне мясцовых уладаў. Інакш за камунальныя паслугі ў нас будуць накоплівацца ўсё новыя мільярдныя даўгі.

Што ёсць — тое ёсць. Даходзіла ўжо да таго, што ў шэрагу ваенных гарадкоў, якія належаць беларускай арміі і якія дзейнічаюць, мясцовыя ўлады адключалі газазабеспячэнне з-за вялікіх даўгоў за энерганосьбіты.

Ёсць, аднак, і іншае меркаванне, чаму армейскае начальства імкнецца спіхнуць грамадзянскім уладам гэтую «непрыемную» гаспадарку — з усімі сацыяльнымі аб'ектамі, жылымі гарадкамі, каналізацыяй і нявырашанымі экалагічнымі праблемамі. Дзесяцігоддзі армія мела вялізныя грошы, але для ўласнай камунальнай гаспадаркі нічога не рабіла, давяла яе да ручкі. Відавочна, вельмі выгадна ад яе пазбавіцца.

Толькі ці возьмуць на сябе гэты цяжар у мясцовыя выканкомы? Адкуль браць на гэта грошы — у мясцовым бюджэце, з кішэняў цывільных падаткаплацельшчыкаў?

... Так, вельмі многа раней гудзелі пра ўзорны армейскі парадак, а цяпер высвятляецца, што гаспадарыць па-сапраўднаму ў гарнізонах ніколі не ўмелі. Прыкладаў — процьма, і адзін з многіх — ваенны гарадок «Кісялевічы» (уласнасць беларускай арміі), што на ўскраіне Бабруйска.

Больш занядбаных ачышчальных збудаванняў, увогуле каналізацыйнай сістэмы аўтару гэтых радкоў бачыць не прыходзілася. Хларатарная, накапляльнік, аэрацыйныя збудаванні даўно закінутыя — «эксплуатацыйнікі» ў пагонах, відаць, наогул не разумеюць, для чаго яны патрэбны. Так званыя «карты» палёў фільтрацыі поўнасцю зараслі асакой і трыснягом — фактычна неачышчаныя нечыстоты самацёкам ідуць па абвадной канаве амаль да сядзіб саўгаса «Кісялевічы». Можна ўявіць, як забруджваюцца падземныя ваданосныя гарызонты.

Вось якім чынам «абслугоўваюць» ваенныя начальнікі-спецыялісты сем тысяч жыхароў (у тым ліку і сваіх служачых) гарадка ў «Кісялевічах»!

Чаму ж у такіх выпадках не здымаюць зорачкі з пагонаў?

Начальнік горрайінспекцыі па экалогіі Валянцін Піліпенка зрабіў наступную выснову:

— Сёння Бабруйскую КЭЧ узначальвае падпалкоўнік В. Жвіціяшвілі. Я асабіста меў з ім мноства «выхаваўчых» гутарак на тэму няправільнай эксплуатацыі ачышчальных збудаванняў і наогул па экалагічнай сітуацыі ў ваенных гарадках Бабруйскага гарнізона. Даваў шмат пісьмовых прадпісанняў па выпраўленню недахопаў. Нічога не дзейнічае, бо вельмі ўжо вялікія амбіцыі ў камандзіра эксплуатацыйнай часткі.

Не дапамагаюць справе і шматмільённыя штрафы, якія накладае на гаспадарнікаў-ваенных экалагічная служба горада. Атрымліваецца, ёсць на гэта грошы ў мясцовай КЭЧ і Міністэрстве абароны?

Што зробіш, не ўсім даў Бог талент гаспадарніка, няхай нават і ў ваенным мундзіры. Дык можа грамадства сапраўды дапаможа нашай слабай арміі, вызваліць яе ад цяжкага штодзённага абавязку клапаціцца пра самую сябе? Няхай займаецца толькі абаронай краіны. Але ж варта напомніць: рабіць гэта на дастойным, прафесіянальным узроўні ніяк не лягчэй, чым як след адрэгуляваць каналізацыю.

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

---

*Са старых сшыткаў*

# Птушкі свету

**Прырода наша бяднее на вачах, кудысьці знікаюць рэдкія жывёлы і птушкі. Ды і нярэдкія — таксама. Хто з чытачоў бачыў, напрыклад, звычайную курапатку, чорнага бусла (акрамя намаляванага на шыльдзе ў якім-небудзь кафэ)? Хто чуў зязюлю, не гаворачы ўжо пра салаўя? Сумна, але чамусьці перасталі яны ўжывацца з чалавекам. Ці наадварот?**

**А як хочацца, каб у нашу прыроду вярнулася ўсё тое, што ў ёй было! Каб не засталіся мы абдзеленымі ўсім, акрамя настальгіі па страчаным прыродным багацці.**

**Зрэшты, іншы раз не шкодзіць чалавеку зведаць і гэта пачуццё. Менавіта таму мы і публікуем невялікае апавяданне-прытчу раней шырока вядомага, а цяпер, на жаль, рэдка чытаемага расійскага празаіка Віталя Біянкі, узятае з яго зборніка «Птушкі свету». Думаецца, напярэдадні Сусветнага дня аховы навакольнага асяроддзя гэта будзе дарэчы.**

**Віталь БІЯНКІ**

## Паэт і салавей

У дзяцінстве паэт не чуў салаўя — не пашанцавала. Чуў толькі, як народ праслаўляў яго спеў. І стаў апяваць салаўя. А заадно і ружы.

Салавей і ружы прыносяць радасць. Радасць прыносіць поспех і славу. Слава прыносіць грошы.

Пад старасць паэт разбагацеў. Купіў сабе дачу з садам з ружаў.

Прыйшла вясна. У кустах зашчоўкаў салавей. Засвістала, заспявала мноства іншых птушак. Паэту гэта не спадабалася. Ён падумаў: «У садзе паэта, які ўсё жыццё апяваў аднаго салаўя, — і павінен жыць адзін салавей. Іншым птушкам з іх нікчэмным шчэбетам і чырыканнем не месца ў маім садзе».

Асабліва адна птушачка яго дапякала. Падыдзе паэт да куста панюхаць ружу — яна рыпіць. Рыпіць і рыпіць раздражняльным дзвярным рыпеннем.

— Міленькая, — сказаў паэт. — Ты зневажаеш мой музычны слых. Ты перашкаджаеш мне цешыцца пахам ружаў. Я выселю цябе з майго саду.

Паэт рассунуў куст і там — ля самай зямлі — убачыў простае травяное гняздо з пяццю яечкамі землянога колеру.

Ён асцярожна аддзяліў гняздо ад галінак — і занёс яго ў лес, далёка за агароджу свайго саду. Непрыгожая птушачка ўвесь час ляцела за ім і жаласна стагнала рыпучым голасам.

— Вось, — сказаў паэт, апускаючы гняздо на зямлю ў лясным гушчары. — Жыві тут. Мы цалкам можам абысціся адзін без аднаго, міленькая.

І вярнуўся да сябе на дачу.

Вечарам ён зручна ўладкаваўся ў шэзлонгу ў сябе на тэрасе і падрыхтаваўся, як заўсёды, слухаць салаўя.

Але салавей не заспяваў.

І вось бяда: ніколі ўжо больш не спяваў салавей у ружовым садзе паэта. Аказалася — паэт сам, уласнымі рукамі выселіў салаўя са свайго саду: бо тая непрыгожая птушачка, што так непрыемна рыпела ля свайго гнязда з яечкамі землянога колеру, і была — салавей. Ля свайго гнязда, у трывозе за сваіх птушанят салавей не спявае, не шчоўкае, не рассыпаецца лірным пошчакам, а стогне непрыемным дзвярным рыпам.

Народ ведае гэта — і склаў загадку.

«Не ў хаце, не на вуліцы — салаўінае гнязДзечка».

Значыць: дзверы рыпяць. Рыпяць, як салавей ля гнязда.

Але адкуль жа было ведаць пра гэта паэту?

**Пераклаў з рускай Мірон ЧАРАПІЦА.**



## Куды падзеліся буслы?

**Вы былі на полі, у лесе, у парку, ці ў іншых месцах, дзе раней жылі птушкі? Вы заўважылі, што яны... прапалі?**

Мінуў час, калі ў Беларусі было шмат дзікіх птушак, асабліва пеўчых. У нас пражывалі амаль усе птушкі, характэрныя для сярэдняй паласы планеты. Гэта каля 600 відаў. У апошнія гады засталося толькі каля 28 відаў. Убачыць нават вераб'я — рэдкасць.

Куды ж яны падзеліся, нашы птахі, можа, адляцелі? На жаль, пра гэта нашы вучоныя-арнітолагі пакуль нічога не сказалі. Толькі аматары прыроды, жыхары-сяльчане выказваюць розныя думкі: адсутнасць адкрытых вадаёмаў (без вады ніхто не абыходзіцца), чарнобыльскае забруджванне атмасферы і зямлі, масавае прымяненне пестыцыдаў і хімічных угнаенняў, браканьерства і адсутнасць аховы птушак. Хутчэй за ўсё — тут комплекс прычын.

У 1993 годзе выйшла «Чырвоная кніга» пад рэдакцыяй Камітэта па экалогіі АН Беларусі. У кнізе значыцца 78 птушак, якія падлягаюць ахове. Толькі 78! З сямейства бусліных туды запісаны толькі чорны бусел. Пра белага — ні слова!

Што, іх «навалам»? Ці яны не падлягаюць ахове? Успамінаецца, што калісьці быў загад былога Галоўрыбпрома аб неабходнасці знішчэння белага бусла, і толькі за тое, што ён можа... з'есці рыбку. Вось як! Можа, гэты выпадак — адна з прычын, чаму птушкі пакінулі нас. Птушкі, як і кветкі, любяць, каб на іх глядзелі добрымі вачамі.

**Станіслаў ШКАДЗІНСКІ,
педагог, правадзейны член
Геаграфічнага таварыства Беларусі.**

---

*Чытач ставіць дыягназ*

## Хто абароніць Шошу?

**Кожнае лета мы з братам падарожнічаем на байдарках па цудоўных мясцінах нашай рэспублікі. У мінулым годзе хадзілі па азёрах Шо і Пліса на Глыбоччыне.**

Ды не аб прыгажосці гэтых азёр мне хочацца напісаць, а аб іх горы. Справа ў тым, што іх злучае рэчка Шоша даўжынёй нешта каля пяцідзесяці кіламетраў. Сёння яшчэ злучае, але заўтра яе ўжо можа і не быць — менавіта з-за тых людзей, якія любяць есці рыбу, прытым дармавую, якая сама ідзе ў падрыхтаваныя для яе пасткі.

Амаль уся рэчка перагароджана штучнымі плацінамі з калоў, жэрдак, пераплеценых лазовымі прутамі. Толькі збоку пакідаецца месца шырынёй каля метра, каб прайшла невялікая лодка.

Уявіце сабе такую плаціну, ды яшчэ прысыпаную пяском. А збоку — толькі метр свабоднай вады, застаўленай сеткай, праз якую і пячкур не пройдзе. Бяры «павука» і чэрпай рыбу. На кожным кіламетры рэчкі — па дзве, а то і тры такія пасткі.

У выніку цячэнне ракі настолькі запаволілася, што яна інтэнсіўна зарастае. Мы ўдваіх ледзь-ледзь, з вялікімі намаганнямі, змаглі прабіцца на байдарцы праз джунглі чароту і трыснягу да вусця Шошы, да яе ўпадзення ў возера Пліса.

Цячэнне амаль няўлоўнае, і мы ўжо страцілі было надзею прайсці да Плісы. Але прабіліся.

Думаем, што праз два-тры гады такога «подзвігу» ўжо не здзейсніш. Рэчка зарасце, застанецца толькі ручай.

Змяніўся жывёльны свет азёр. Збяднеў на рыбу. Многія яе віды ўжо не водзяцца. Рэчцы і азёрам патрэбен паратунак ад браканьераў.

**Леў МАРОЗАЎ.**

# НЯВЕСТА І ЖАНІХІ

## НАТАТКІ ПАСЛЯ ТРОХ СУСТРЭЧ БЕЛАРУСКІХ УЛАДАЎ З ІНТЭЛІГЕНЦЫЯЙ

**Жыццё — сапраўдны тэатр. Такія падсоўвае сюжэты, што міжволі хапаешся за галаву. Вось і з культурай у Беларусі цікавыя рэчы адбываюцца. Паспрабую растлумачыць сітуацыю.**

Дзеючыя асобы ў спектаклі жыцця: Яго Вялікасць Час, Нявеста (гэта значыць культура), Жаніхі (усе тыя дзяржаўныя асобы і структуры, што так альбо інакш зацікаўлены ў існаванні культуры). Нявеста, як і мае быць, дзяўчына годная, цану сабе ведае, ганарлівая, не без капрызаў. Але не спешчаная ўвагай Жаніхоў. Ну, і Жаніхі таксама не зломкі: пры грашах, пасадах і амбіцыях. Амбіцыі ў Жаніхоў аднойчы так далёка зайшлі, што яны вырашылі абысціся без Нявесты, маўляў, хай сабе гуляе дзеўка — вырашае свой лёс сама, а мы, хлопцы дзелавыя, не маем часу на ўсялякія гулі — дом уласны (чытай: дзяржаву) будуем. Будавалі-будавалі, пакуль не заўважылі, што нечага не хапае. Пабеглі на суседнюю вуліцу, сталі клікаць да сябе Нявесту: «Прыходзь, дзеўка, пагаварыць трэба «за жыццё»!» Прыйшла Нявеста — бледненькая, знерваваная, галодная і кепска апранутая.

Пачалі з ёй Жаніхі размаўляць, улагоджваць, пытаць, чаго яе душа жадае. Крыўда ў Нявесце загаварыла і пачала яна скардзіцца на сваю горкую долю. Сакратаркі Жаніхоў усе крыўды і прэтэнзіі Нявесты ўважліва выслухалі і запісалі — аж на 10 старонак машынапіснага тэксту праз два інтэрвалы «наскардзілася» Нявеста.

Такая атрымліваецца карціна. Гэта калі вобразна. А вось, калі ласка, рэальныя факты і дэталі. 13 красавіка 1996 года Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі на сустрэчы з інтэлігенцыяй у Вярхоўным Савеце абвясціў сваю пазіцыю:

— Вярхоўны Савет спрабуе наладзіць адносіны з усімі слаямі грамадства, у тым ліку і з інтэлігенцыяй. Мы разумеем, што рух уперад, аднаўленне амаль разбуранай прамысловасці, сельскай гаспадаркі немагчымы без заканадаўчай базы. А пабудова дэмакратычнага грамадства ў нас немагчыма без калектыўнага розуму. Твар нацыі і грамадства вызначае культура. Таму я хачу запытацца ў вас, што трэба зрабіць нам, уладзе, каб культура ў Беларусі нармальна функцыянавала?

Пасля гэтага некалькі гадзін запар дзеячы мастацтва і культуры дзяліліся з уладай сваімі галоўнымі бедамі. Казалі пра сваё жабрацкія заробкі, сацыяльную неабароненасць, сістэму падаткаабкладання, якая практычна задушыла творчыя саюзы.

Існуючая ў рэспубліцы сітуацыя прымусіла творчых людзей пацікавіцца: якую культуру яны ўсё ж будуюць — нацыянальную ці інтэрнацыянальную. Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Васіль Зуёнак мусіў нагадаць, што без мовы няма культуры, а Закон аб мовах у нас ігнаруецца, падвяргаецца рэвізіі і Закон аб адукацыі.

— Не трэба рабіць выгляд, — сказаў В. Зуёнак, — што нічога не адбываецца, што няма ў дзяржаве поўнай стратэгіі. Яна ёсць — на збліжэнне з Расіяй, а пад гэтай маркай ідзе вымыванне тых падмуркаў, на якіх трымаецца нацыянальная культура.

Былы намеснік міністра культуры У. Гілеп, які цяпер з'яўляецца старшынёй Савета культуры краін СНД, намаляваў не вельмі прывабную карціну рэчаіснасці, спрабуючы вызначыць месца Беларусі сярод іншых краін СНД. «Да нас прыязджаюць з суседніх краін, просяць даць ім нашыя законы аб культуры, аб мовах... Мы напрымалі законаў столькі, што Беларусь магла б вырвацца далёка ўперад, але, на жаль, яны не працуюць і даводзіцца канстатаваць, што мы далёка адсталі ад той жа Расіі.

А вось па чыёй віне — трэба высветліць. Вярхоўны Савет прыняў закон, а кіруючыя органы, якія павінны назіраць за яго выкананнем, — абавязаны працаваць у адпаведнасці са сваім статусам. Будзе гэта — будзе рэспубліка, будзе культура. Інакш канем у небыццё. Я не ведаю, у якую эканамічную інтэграцыю мы ўвойдзем... Але са словам «культура» ні ў якім разе нельга ўжываць слова «інтэграцыя».

Не паспелі супакоіцца страсці пасля першых сустрэч, як Камісія Вярхоўнага Савета па адукацыі, навуцы і культуры сумесна з Міністэрствам культуры і БРК прафсаюза работнікаў культуры і Канфедэрацыяй творчых саюзаў і культурных фондаў Беларусі зноў наладзіла спатканне работнікаў і дзеячаў культуры і мастацтва з кіраўніцтвам Вярхоўнага Савета ўрада рэспублікі.

Да міністра працы Аляксандра Саснова было, бадай што, найбольш пытанняў ад прысутных. Але сэнс усіх адказаў быў прыблізна такі: «Мы вельмі б хацелі дапамагчы работнікам культуры, аднак сродкаў не хапае». Найбольш прафесіянальныя падыходы прадэманстраваў намеснік міністра эканомікі Андрэй Тур. Па яго словах, мы ўсе спрабуем прыкрыцца адной коўдрай, кожны цягне яе ў свой бок... У пераходны перыяд, які цяпер перажывае рэспубліка, неабходны новыя, нестандартныя падыходы. Напрыклад, сказаў ён, варта паспрабаваць знайсці механізм, які павялічваў бы крыніцы крэдытавання і фінансавання культуры.

Ну і што з усяго гэтага атрымаецца? — можаце спытаць вы. І будзеце мець рацыю. Бо ў беднай краіне не можа квітнець культура. Пытанне, мусіць, трэба ставіць так: як выжыць культуры і што дзеля гэтага неабходна зрабіць дзяржаве? У Звароце ўдзельнікаў рэспубліканскай сустрэчы работнікаў культуры і мастацтва, што адбылася 24 красавіка 1996 года, ёсць такі пункт: прасіць паскорыць разгляд вышэйшым заканадаўчым органам краіны падрыхтаванага блока новых заканадаўчых актаў, якія датычаць сферы культуры і яе прававога рэгулявання, — «Аб музеях і музейным фондзе РБ», «Аб творчых саюзах», «Аб тэатрах і музычна-канцэртнай дзейнасці», «Аб нацыянальнай кінематаграфічнай дзейнасці», «Аб аўтарскім праве», «Аб народнай творчасці і рамёствах». А яшчэ работнікі культуры і мастацтва лічаць, што Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь павінен як мага хутчэй зацвердзіць комплексную дзяржаўную праграму развіцця беларускай культуры на перспектыву, а на пераходны перыяд — Канцэпцыю развіцця мастацтва і культуры з вызначанымі ў ёй прыярытэтнымі накірункамі дзяржаўнага фінансавання.

Вострай неабходнасцю, на думку творчай інтэлігенцыі, з'яўляецца стварэнне ў рэспубліцы Нацыянальнага савета па культуры і мастацтву з шырокімі правамі і паўнамоцтвамі.

Праз месяц пасля апошняй сустрэчы і дэклараваных на ёй намераў улады і пажаданняў інтэлігенцыі я патэлефанавала старшыні падкамісіі па культуры Вярхоўнага Савета Беларусі Мікалаю Шаўцову і папыталася, як змянілася сітуацыя.

— Было наладжана пасяджэнне Камісіі па адукацыі, навуцы і культуры Вярхоўнага Савета, — паведаміў ён. — Прынята адпаведная пастанова. Зацверджаны мерапрыемствы па рэалізацыі крытычных заўваг, прапаноў і просьбаў, што прагучалі на сустрэчы. Камісія і падкамісія па культуры ўключыліся ў падрыхтоўку і напрацоўку Кодэкса законаў аб культуры. 17 мая ў першым чытанні Вярхоўным Саветам прыняты законы «Аб музеях і музейным фондзе», «Аб аўтарскім праве і сумежных правах», а цяпер камісія працуе над праектам закона «Аб творчых саюзах», разгледзела пытанні льготнага падаткаабкладання для ўстаноў культуры і мастацтва і накіравала матэрыялы ў Камісію па бюджэту, фінансах і банках для выкарыстання пры выпрацоўцы Кодэкса аб падатках.

Механізм, як кажуць, закруціўся. Але ці дачакаемся мы ў XX стагоддзі рэальных вынікаў дзеяння гэтага механізма?

**Таццяна АНТОНАВА.**

ПАЛЕМІКА

# «ЮПІТЭР, ТЫ ЗЛУЕШСЯ — ЗНАЧЫЦЬ ТЫ НЕ МАЕШ РАЦЫІ»

**Гэты старажытны выраз падспудна ўсплывае ў памяці, калі ўчытваешся ў тэкст вялікага інтэрв'ю з народным мастаком СССР і Беларусі акадэмікам Міхаілам Андрэевічам Савіцкім пад трывожна-запытальным загалоўкам «Мастацтва вымірае?..» («Звязда», 4 мая 1996 г.). І па форме, і па зместу, і па сэнсу яно пакідае ўражанне вельмі сярдзітай (амаль злоснай) пропаведзі (больш падобнай на водпаведзь) наконт прычын сучаснага стану мастацтва ў рэспубліцы.**

Паколькі гэта не першае публічнае выступленне М. Савіцкага аналагічнага характару, то ўзнікае жаданне больш уважліва паглядзець на абмяркоўваемыя праблемы ў святле іх аўтарскага бачання. Вядома ж, складанасць і супярэчлівасць працэсаў, што адбываюцца сёння ў галіне мастацтва і культуры, патрабуюць поўнамаштабнага навуковага даследавання. Але тут пытанне не столькі ў саміх праблемах, колькі ў спецыфіцы іх успрыняцця канкрэтнай творчай асобай. Таму мы пастараемся абмежавацца толькі тым, што не выходзіць за рамкі тэксту інтэрв'ю.

Вострая занепакоенасць такога вядомага жывапісца лёсам беларускага мастацтва цалкам зразумелая і яе, мяркую, падзяляе кожны сапраўдны мастак. Час сёння на самай справе падверг мастацтва (ды і грамадства ў цэлым) сур'ёзным выпрабаванням і ўзрушэнням, і разабрацца ва ўсіх яго хітраспляценнях і метамарфозах зусім не проста нават вучоным-спецыялістам.

Нас (чытачоў) пагружаюць у атмасферу рэзка крытычных меркаванняў славутага мастака на ўяўнай паніхідзе па быццам бы выміраючаму мастацтву. Пры гэтым, чым больш раздражнёнай і сярдзітай становіцца яго гаворка, якая выкрывае разбуральнікаў і магільшчыкаў мастацтва, тым больш настойліва гучыць ва ўсведамленні чытача ўнутраны голас сумнення: а ці мае рацыю Юпітэр-грамавержац? Ці адэкватна ён сам успрымае і ацэньвае рэаліі жыцця сучаснага мастацтва?

Падставу для гэтага даюць ужо першыя фразы інтэрв'ю, дзе катэгарычна заяўляецца, што прычынай бед і разбурэнняў мастацтва з'яўляецца тое, што «ўрад не мае праграмы ў галіне мастацтва і культуры». Адносна праграм, планаў і да т. п. скажам трошкі пазней. **Але што датычыцца пытання дзяржаўнай стратэгіі ў галіне культурнай палітыкі,** то хацелася б верыць, што М. Савіцкі (як дэпутат былых Вярхоўнага і іншых Саветаў, член шматлікіх камітэтаў і прэзідыумаў) выдатна ведае, **што яна адлюстравана не толькі ў Канстытуцыі РБ, але і ў спецыяльным Законе аб культуры** (які, дарэчы сказаць, быў распрацаваны і прыняты ў нас значна раней, чым у іншых рэспубліках былога СССР і ўжо дае прыметныя вынікі). **Да таго ж, сёння існуюць і стаяць на парадку дня ВС РБ праекты законаў аб аўтарскіх правах, творчых саюзах і інш., а таксама адпаведныя пастановы Прэзідэнта і Кабінета Міністраў.**

Усё гэта не проста **«праграмы мерапрыемстваў»**, **а рэальнае ўвасабленне культурнай палітыкі дзяржавы ў форму прававых асноў яе дэмакратычнага развіцця, у тым ліку і ў галіне нацыянальнага мастацтва, мастацкай творчасці, адукацыі і эстэтычнага выхавання.** З гэтага вынікае, што смерць мастацтва (а таксама яго гвалтоўнае разбурэнне, паміранне, выміранне, забіванне і да т. п.) у Рэспубліцы Беларусь забаронена, скажам так, законам, які не можа адмяніць ні воля чыноўніка, ні бязвольнасць ці злы намер саміх служыцеляў муз. Акрамя таго, мастацтва і само па сабе вельмі жывучае, яно было, ёсць і будзе заўсёды там, дзе быў, ёсць і будзе існаваць чалавек, бо яго эстэтычнае ўсведамленне неад'емнае ад яго чалавечай існасці, як гаворыцца, у выніку законаў натуральнага быцця.

Такім чынам, адзін з ключавых тэзісаў, які быццам бы апраўдвае трывожны загаловак інтэрв'ю, аказаўся, мякка кажучы, неадэкватным рэальнаму стану спраў. А рэальны стан спраў такі, што мастацтва ў Рэспубліцы Беларусь актыўна жыве і развіваецца, шукае новыя формы адлюстравання грамадскай практыкі ва ўсёй яе шматграннасці і супярэчнасці, у ім пульсуюць токі новай жыццёвай энергіі. Пры гэтым, вядома, нешта застаецца не да канца зразумелым, непрынятым і нават беззваротна страчаным. Але «се ля ві», як кажуць французы...

На гэтым агульным фоне даволі дзіўна выглядаюць сярдзітыя настаўленні Савіцкага-агітатара аб тым, **якое мастацтва** сёння мае права жыць і служыць народу, а **якое** такога права павінна быць катэгарычна пазбаўлена. Як ні круці, а з яго выказванняў напрошваецца толькі адзін вывад — ну вядома ж, жыць павінна толькі тое мастацтва, якое нясе народу ён сам як **народны** мастак. Гэта адзіна правільнае, патрэбнае, духоўна паўнацэннае мастацтва. А ўсё астатняе, так званы авангард (які і авангардам, паводле яго сцвярджэнняў не з'яўляецца), маўляў, не адпавядае духу часу і спадзяванням народа, самадзейная бязглуздзіца, духоўная разбэшчанасць, разбурэнне эстэтычных каштоўнасцей, непісьменнасць і адсутнасць прафесіяналізму.

Што ж, пункт гледжання вельмі канкрэтны, які нясе вялікі зарад палемічнай завостранасці, але, пры гэтым, зусім не арыгінальны, дакладна зафіксаваны ў гістарычнай памяці. Яго сутнасць бліскуча адлюстраваў яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя адзін з выдатных прадстаўнікоў плеяды магікан — Уільям Морыс, цудоўны англійскі мастак-прыкладнік, вядомы тэарэтык мастацтва і архітэктуры, які стаяў ля вытокаў нараджэння стылю мадэрн. У пераломны момант гістарычных лёсаў высокага мастацтва пад націскам машыннай індустрыі, што няўмольна насоўвалася, ён пісаў: «...Акрамя жадання ствараць прыгожыя рэчы, асноўнай страсцю майго жыцця была і ёсць нянавісць да сучаснай цывілізацыі». Вось узор шчырасці і мужнасці, якія ўласцівы моцнай асобе, на лёс якой выпала сустрэцца тварам у твар з поўнай трагізму праблемай сутыкнення інтарэсаў асобы мастака і патрабаванняў гістарычнага часу. Тут заўсёды пераважае час. І, на жаль, з гэтым нічога нельга зрабіць. Кола гісторыі спыніць немагчыма, як немагчыма прымусіць яго паслухмяна круціцца, каб дагадзіць чым-небудзь звычным густам, перавагам і асабістай прыязнасці, нават калі яны належаць генію. На жаль, законы дыялектыкі няўмольныя.

Аднак, як ні дзіўна, вынаходлівыя людзі змаглі зрабіць і для кола гісторыі некаторыя хітрыкі: прытармазіць, дэзарыентаваць, прымусіць прабуксоўваць на месцы хоць бы на нейкі кароткі час. Гэтыя хітрыкі падазрона падобныя на тое, што наш магіканін спрабуе ў гарачцы палемікі з нагоды бядотаў мастацтва ўвесці ў свядомасць чытача. Ён планамерна стараецца правесці думку аб тым, што, перш за ўсё, на ўсё патрэбна праграма, у якой павінна быць дакладна вызначана (зразумела, у строгай адпаведнасці з разуменнем самога Міхаіла Андрэевіча): што патрэбна народу, а што — не, каб было ўсё дакладна арганізавана, каб не наскокам, не спантанна і інтуітыўна (па заклiку душы і сэрца), а прадумана, строга ўзгоднена, каб кожны ведаў, што і як рабіць, каб не пускаць усё на самацёк. А для гэтага неабходна ўзброіцца такой ідэалогіяй, «якая можа **прымусіць народ** (выдзелена мной. — **А. Ч.**) працаваць і жыць сумленна». Вось так!

Само па сабе зразумела, калі такога «шчасця» жадаюць усяму народу, то мастакоў і мастацтва ў цэлым гэта павінна датычыцца ў першую чаргу. А калі нехта ці нешта не ўпісваецца ў гэты стройны парадак, то сярдзітай водпаведзі Савіцкага-маралiста не мінуць. Дарэчы, для гэтага ў яго ўсё прадугледжана. Ён нават мэту мастацтва выносіць за межы эстэтычных катэгорый цудоўнага, агіднага, узвышанага, подлага, трагічнага і да т. п. і дэпартуе яе ва ўлонне чыстай маралі, з яе разуменнем дабра, зла, справядлівасці і інш. У цэлым выстройваецца вельмі зручная лагічная схема, па якой вельмі проста даказаць, што Я (г. зн. М. Савіцкі) — гэта ісціна, дабро і прыгажосць, злітыя ў адно цэлае, а што не-Я (усе астатнія) — гэта не мастацтва (і нават не мастацкая творчасць), гэта бязглуздзіца, зло... Больш таго, па гэтай логіцы з дзіўнай лёгкасцю чорнае ператвараецца ў белае і наадварот. Напрыклад, вельмі проста можна апраўдаць плагіят у мастацтве, паколькі паняцце навізны ў творчасці можна, аказваецца, проста перавесці з рангу якаснай характарыстыкі твора ў звычайны колькасны прыдатак. Нават Іуда становіцца няшчаснай ахвярай, проста слабым чалавекам, а сапраўдныя віноўнікі злоснай здрады — гэта тыя, хто даў яму 30 срэбранікаў. Хоць, калі будзе заўгодна, то гэтая логіка дазваляе апраўдаць і іх, і перанесці ўсю віну на тых, хто прыдумаў і вырабіў гэтыя злашчасныя срэбранікі і... гэтак далей, да стварэння свету. Што з таго, што пры гэтым не застаецца ў маралі ні дабра, ні зла, а толькі татальная ўсёдазволенасць і безадказнасць?

Свядомасць, знявечаная агіднай логікай, здольная хлуслівыя ідэі «апранаць» у знешне яркія і прагрэсіўныя формы. Але калі сур'ёзна ўдумацца ў рэальны сэнс заклiку Савіцкага — трыбуна адносна неабходнасці аб'яднання сіл творчай інтэлігенцыі ў абарону мастацтва і культуры, дык адкрыецца даволі змрочная перспектыва. Улічваючы, што гэтыя сілы ўжо арганізаваны і аб'яднаны ў творчыя саюзы, фонды і рухі, а таксама ў Канфедэрацыю творчых саюзаў і культурных фондаў, якія праводзяць вялізную работу, то атрымліваецца так, што ўсю гэту сістэму неабходна расфарміраваць і аб'яднаць зноў вакол Савіцкага і яго ідэй. Іншага лагічнага вываду тут не бачна. Баюся, што, акрамя шкоды як для згаданых сіл, так і для самога мастацтва, з гэтага нічога не атрымаецца.

Бедны чытач (я маю на ўвазе перш за ўсё сябе) гэтай логікай зусім збіты з толку. Бо ў ёй любы адзінкавы факт, любая выпадковая з'ява без усялякіх аргументаў выдаецца за нейкую ўсеагульнасць, за сутнасць і ісціну таго, што наважыцца сцвярджаць Савіцкі-мысліцель. Ну скажыце, калі ласка, як мне, хто правёў у Акадэміі мастацтваў больш за трыццаць гадоў жыцця, хто ведае яе не па чутках і выхаваны ў яе сценах на прынцыпах зусім іншай логікі (навукова доказнай, дыялектычнай), адносіцца да таго сцвярджэння, што быццам бы акадэмія выпускае бездапаможных недавучак, без прафесіянальнай пісьменнасці і творчага мыслення?! Чым жа і як тады тлумачыць той неаспрэчны факт, што многія нашы студэнты, якія нават не прайшлі поўнага курса навучання, атрымліваюць перамогі на міжнародных конкурсах, фестывалях і выставах, атрымліваюць аўтарскія пасведчанні на вынаходкі і прамысловыя ўзоры, укараняюць у жыццё свае дыпломныя і курсавыя работы? Я ўжо нават не хачу казаць аб поспехах выпускнікоў і педагогаў. Ці ўсё гэта не ўлічваецца? Вядома, можна і так. Толькі пры гэтым трэба разумець велічыню рызыкі, а яна, на мой погляд, не варта Вашага, Міхаіл Андрэевіч, добрага імя. Падумайце, а што калі ўзбуджаны Вашымі абвінавачымі выказваннямі зацікаўлены чытач возьме ды і пагартае альбом студэнцкіх работ, выдадзены да 50-годдзя акадэміі, і знойдзе там і высокі прафесіяналізм, і яркае мастацка-кампазіцыйнае мысленне, і спецыфіку нацыянальнай школы? Ці, напрыклад, пачытае навуковыя працы і вучэбна-метадычныя распрацоўкі выкладчыкаў акадэміі і знойдзе, што ў іх ёсць і глыбіня тэарэтычнай думкі, і навізна, і арыгінальнасць педагагічных падыходаў да працэсу падрыхтоўкі спецыялістаў? Бо пасля гэтага чытач мае права задаць Вам пытанні зусім іншага характару. А заадно і пацікавіцца: як жа пры ўсім гэтым так атрымалася, што для такога вялікага інтэрв'ю, якое закранае не толькі вялікую колькасць праблем, але і асабістых лёсаў немалой колькасці людзей, у Вашым разумовым арсенале не знайшлося ні аднаго пазітыўнага азначэння, ні адной станоўчай характарыстыкі, ні аднаго добрага слова? Не ведаю, магчыма, па адказ яму трэба звярнуцца да той гісторыі, якая была апублікавана ў газеце «Голас Радзімы» № 6, 6 лютага 1992 г.

Гаворка ў ёй ішла аб тым, што калі Вас аднойчы ўгаварылі напісаць пару работ проста на радасць людзям, то як Вы ні стараліся, а светлага і радаснага пейзажа не атрымалася. Усё роўна выйшла нешта трывожнае, чорнае, змрочнае. Ці не ў гэтым хаваецца ісціна? У такім выпадку праблема вырашальная: проста трэба ўзяць на ўзбраенне Вашу мудрую параду, якой заканчваецца інтэрв'ю: «Зло ў людзях будзе пераадолена, калі кожны пераадолее зло ў самім сабе». Жадаю Вам поспехаў!

З надзеяй і глыбокай павагай да Савіцкага-мастака —

**Алег ЧАРНЫШОЎ,**
**кандыдат філасофскіх навук,**
**дацэнт кафедры дызайну Беларускай акадэміі мастацтваў.**

*17.05.96.*

НАЎЗДАГОН

# ПРАФСАЮЗЫ БАЧАЦЬ ВЫЙСЦЕ Ў РЭФОРМАХ

**Без перабольшання, самая балючая апошнім часам праблема Беларусі — сітуацыя з затрымкамі заработнай платы. 13 мая быў зроблены яшчэ адзін крок да яе вырашэння: з'явіўся Указ Прэзідэнта, які прадугледжвае шэраг дадатковых мераў па забеспячэнню своечасовай выплаты заробкаў. Як успрынялі гэты дакумент яго непасрэдныя ініцыятары — прафсаюзы? Каб высветліць гэта пытанне, наш карэспандэнт звярнуўся да намесніка старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Франца Вітко.**

— Нагадаю, што ў адпаведнасці з указам Прэзідэнта ад 17 лістапада мінулага года была ўведзена сістэма браніравання заработнай платы на прадпрыемствах. Сутнасць яе ў наступным: прадпрыемства, якое мае запазычанасць па зарплаце, у першую чаргу павінна выкарыстоўваць свае сродкі на тое, каб выплаціць людзям грошы ў памеры так званага «пражытачнага мінімуму». Ён, дарэчы, складае 60 працэнтаў ад кошту «спажывецкай карзіны», альбо на сёння прыкладна 625 тысяч рублёў.

Але з леташняга прэзідэнцкага ўказа чамусьці «выпала» некалькі даволі істотных момантаў. Па-першае, ён не ўлічваў выплат па кафіцыентах тарыфных ставак (г. зн. дадатковых выплат у залежнасці ад цяжкасці ўмоў працы), па-другое, на ўказе нічога не гаварылася пра адпускныя і, нарэшце, пра выплаты ў Фонд сацыяльнай абароны — на пенсіі, бальнічныя і г. д.

Таму прафсаюзы былі вымушаны зноў ініцыяваць перамовы з урадам, у выніку якіх нашы патрабаванні аб браніраванні сродкаў прадпрыемстваў на вышэй пералічаныя мэты таксама былі задаволены.

**— Тым не менш падстаў для аптымізму пакуль вельмі мала. На пачатак мая агульная запазычанасць па зарплаце склала 893 мільярды рублёў. Сітуацыя амаль крытычная. Дзе, на думку прафсаюзаў, выйсце?**

— Сапраўды, сёння зноў рэзка ўзрасла запазычанасць па зарплаце і, адпаведна, рэзка павялічылася сацыяльная тэмпература грамадства. Таму нядаўна Прэзідэнт накіраваў тэлеграму ў Кабінет Міністраў і Нацбанк з патрабаваннем разлічыцца па зарплаце за І квартал гэтага года да 20 мая. Спадзяюся, гэта задача будзе выканана. Хаця і зразумела: падобныя меры ніколі не вырашаць праблемы кардынальна. Патрэбны рэальныя рэформы эканомікі. Інакш мы рызыкуем «праесці» не толькі абаротныя, але і асноўныя сродкі нашых прадпрыемстваў.

**— Вы кажаце пра рэформы, але якія канкрэтна?**

— Перш-наперш трэба як мага хутчэй распрацаваць стратэгію развіцця нашай эканомікі, якая б улічвала ў сябе змяненні ў падатковай сістэме, а таксама вызначэнне і падтрымку найбольш перспектыўных, канкурэнтаздольных на сусветным рынку галін вытворчасці. Для Беларусі, з улікам яе геаграфічнага становішча, прыродных умоў і ранейшай спецыялізацыі, прыярытэтнымі накірункамі маглі б, напрыклад, стаць транспарт, сфера абслугоўвання, турызм, харчовая вытворчасць, вытворчасць лёну і, адпаведна, тэкстыльная прамысловасць, радыёэлектроніка і г. д.

Нарэшце, патрэбна праграма рэструктурызацыі нашых гігантаў, пераўтварэнне іх у кангламераты маленькіх прадпрыемстваў. Бо калі раптам абанкруціцца адно з такіх прадпрыемстваў, страты для ўсёй эканомікі Беларусі будуць нязначныя. Спыненне ж работы гіганта можа прывесці нас да агульнага краху.

Словам, выйсце ёсць. Яго трэба толькі шукаць, прычым усім разам.

**Сяргей ГРЫБ.**

# ЮРЫЙ ХАДЫКА НЕ ЛІЧЫЦЬ СЯБЕ ВІНАВАТЫМ

***Як ужо паведамляла «Звязда», 20 мая, пасля 23-дзённай галадоўкі пратэсту ў следчым ізалятары, пад падпіску аб нявыездзе быў вызвалены з-пад варты адзін з лідэраў БНФ Юрый Хадыка, які абвінавачваецца па арт.168-3 Крымінальнага кодэкса за арганізацыю несанкцыяніраванага шэсця «Чарнобыльскі шлях» 26 красавіка гэтага года. Падставай для прыняцця гэтага рашэння быў стан здароўя Ю. Хадыкі, які патрабуе спецыяльнай медыцынскай дапамогі, і паручыцельствы вядомых у рэспубліцы людзей.***

***Юрый Хадыка выглядае няблага, натуральна, схуднеў кілаграмаў на 16, але трымаецца даволі бадзёра, жартуе і ўсміхаецца. Ён змешчаны разам з Вячаславам Сіўчыкам у спецыялізаваную мінскую гарадскую клінічную бальніцу № 3 і пачаў ужо выхад з галадоўкі, п'е адвары з грэцкіх круп. Выхад з галадоўкі зацягнецца яшчэ на тыдзень. Сваё вызваленне з-пад варты пад падпіску ён лічыць маральнай перамогай.***

***У трэцяй клінічнай бальніцы з Ю.В.Хадыкам сустрэўся наш карэспандэнт.***

**— ЮРЫЙ ВІКТАРАВІЧ, як вы ацэньваеце цяпер стан вашага здароўя?**

— Ёсць, зразумела, слабасць, голас крыху «падсеў», бяссонніца дае аб сабе знаць, моцнага сну маю толькі гадзіны тры...

**— Як вам галадалася?**

— Што тычыцца мяне, то галадоўка праходзіла нармальна, я раней цікавіўся, як трэба праводзіць галадоўку, як у яе ўваходзіць, як выходзіць, таму асаблівых праблем у мяне не было. Цяжка вось было пакінуць смаліць, але калі на дзесятыя суткі пачала моцна балець галава, я кінуў...

**— Выходзіць, кінуць есці было лягчэй, чым смаліць цыгарэты?**

— Так, атрымліваецца. Адзіная цяжкасць была, што ў турме немагчыма было рабіць ачышчэнне страўніка так рэгулярна, як патрабуецца пры галадоўцы. Пакуль я не пераканаў адміністрацыю, каб мне дазволілі перадаць гэтую «грушу» для клізмаў... А вось мае сукамернікі ставіліся да галадоўкі з паразуменнем, спачатку ўгаворвалі кінуць яе, а потым вызвалілі мяне ад дзяжурства па камеры, апякалі нават, ваду дапамагалі гатаваць.

**— Ведаеце, была інфармацыя, што апошнія дні вы быццам бы ўжо не ўставалі...**

— Мабыць, пераблыталі з Вячаславам Сіўчыкам, ён хоць і маладзейшы, але слабейшы, горш пераносіў галадоўку. Было, праўда, што нейкі час у мяне ўпаў ціск да крытычнай рысы, тады доктар параіў піць падсоленую ваду, і ціск нармалізаваўся літаральна праз дзень... Зараз з дактарамі я знаходжу агульную мову, і мяркую, што добры настрой і воля чалавека дазваляюць выходзіць і з больш цяжкіх сітуацый без значнай шкоды для здароўя. Так што я думаю, што выйду з галадоўкі нармальна.

**— У вас сапраўды два разы была грунтоўная медыцынская камісія: 16 і 19 мая?**

— Так. Камісіі адзначалі, што ў арганізме адбываюцца тыя перамены, якія звычайна бываюць падчас галадоўкі. Як я разумею, яны пераканаліся, што мы сапраўды галадаем. Першая камісія больш нічога не выявіла, а вось другая, гэты кансіліум, зрабіла агляд больш грунтоўны, знайшла некаторыя адхіленні ад нормы, але ў межах маіх узроставых паказчыкаў. Такім чынам, што датычыць мяне, то ніякай пагрозы жыццю ці здароўю не было, я там толькі патрабаваў, каб Сіўчыка адпусцілі.

**— Юрый Віктаравіч, а з чым вы звязвалі гэтую вашу галадоўку, як вы яе тлумачылі ў сваіх заявах?**

— Усім супрацоўнікам гэтых устаноў, у тым ліку медыцынскаму персаналу, я тлумачыў свой пратэст тым, што я не лічу сябе злачынцам, які парушыў якія-небудзь артыкулы Крымінальнага кодэкса, што справа гэта палітычная, што гэта ўсе добра разумеюць, таму гэта пратэст супраць бяспраўнага, незаконнага зняволення, які будзе працягвацца да таго часу, пакуль нас не выпусцяць. Таму што гэтае імкненне сённяшняй улады паставіць усіх на калені ў адносінах да БНФ не пройдзе, не станем мы на калені перад гвалтоўнай уладай, якая не паважае ні правоў чалавека, ні Канстытуцыі, ні законаў. І вы ведаеце, я знаходзіў разуменне сярод усіх гэтых людзей, і яны больш нават не адгаворвалі.

**— Аднак следчы мінскай пракуратуры зазначаў, што вы ніяк не аргументавалі сваю галадоўку...**

— У пісьмовай заяве я напісаў коратка: я пратэстую супраць незаконнага затрымання і аб'яўляю галадоўку, патрабуючы вызвалення пад падпіску аб нявыездзе. Я не збіраюся нікуды ўцякаць, нават калі мяне будуць выганяць...

**— Ці ведаеце вы, у чым вас абвінавачваюць?**

— Мне прад'явілі абвінавачанне па арт.168-3 Крымінальнага кодэкса, але ў чым маё злачынства — яны не патлумачылі. Яны не могуць мяне ні ў чым абвінаваціць, таму што я падчас шэсця толькі заклікаў падтрымліваць максімальны парадак, машын не перакульваў, ні да аднаго міліцыянера не дакранаўся... Я сябе лічу абсалютна невінаватым, нават фармулёўка «арганізацыя» тут зусім не падыходзіць, арганізаваць мітынг можа наша ўлада, але для гэтага патрэбна сто аўтобусаў, патрэбен дазвол, каб людзей адпускалі з працы і г.д. Мы ж людзей не арганізоўвалі, мы заклікалі іх на мітынг, і калі яны прыходзяць — значыць ёсць у грамадстве такая патрэба.

**— Як член Нацыянальнага аргкамітэта, вы праводзілі перамовы з гарадскімі ўладамі, скажыце, ці выканалі яны свае абяцанні?**

— Гарадскія ўлады цалкам выканалі свае абяцанні, якія яны давалі вышэйшай уладзе, а нам яны ніякіх абяцанняў не давалі. Спачатку яны забаранілі нам усё, і гэта было грубым парушэннем дзеючага заканадаўства, таму што ніякая гарадская ўлада не можа забараніць такі мітынг, шэсце, прысвечанае ўсенароднай трагедыі. У той жа дзень выйшла пастанова Кабінета Міністраў, якая абвяшчала 26 красавіка днём усенароднага смутку. Нам прапанавалі далучыцца да таго мітынгу, дзе нам бы і слова не далі. Пазней яны далі дазвол на мітынг, а на шэсце — не. Гэта відавочная правакацыя, таму што людзі збіраліся каля Акадэміі навук і неяк павінны былі дабрацца да Палаца спорту. Вось тут мы ўжо пайшлі на ўсе перамовы з міліцыяй, дагаварыліся аб двух варыянтах: калі людзей будзе нямнога, да 20 тысяч, то мы пойдзем тратуарамі, па вуліцы Чырвонай і далей закавулкамі; але калі больш, то мы пойдзем да цырка па праспекце. І міліцыя аб гэтым ведала. Спачатку мы хацелі рабіць паварот толькі каля ГУМа, бо пяцідзесяцітысячная калона — гэта цяжкакіруемая маса людзей. Толькі па просьбе Тарлецкага, які за гэтыя беспарадкі атрымаў званне генерала, мы адступілі да цырка... Калі мы пачалі рухацца, было прыкладна 20 тысяч, але колькасць людзей хутка павялічвалася, таму вельмі хутка яны выйшлі на праспект. Нельга ж думаць, што людзі, якія добраахвотна прыйшлі адзначыць 10-годдзе трагедыі, выказаць свой пратэст, могуць падпарадкоўвацца любому загаду. У людзей ёсць свае ўяўленні пра справядлівасць ці несправядлівасць, і толькі тады, калі загады адпавядаюць гэтым уяўленням большасці, калонай можна кіраваць. Але якія падставы былі выстаўляць міліцэйскія кардоны, калі да плошчы Якуба Коласа людзі паводзілі сябе дысцыплінавана? Гэта грубая непавага да людзей або рэалізацыя плана правакацыі, і гарадскія ўлады тут аказаліся крайнімі, казламі адпушчэння. Відаць, улада хацела справакаваць бойку, паказаць сваю сілу, і я проста ганаруся, што людзі не адступілі і даказалі, што яны маюць сваё права.

Няхай судзяць мяне, я не баюся гэтых судоў.

**— Тым не менш, як казаў адзін са следчых, у рэшце рэшт, хтосьці павінен адказаць за тыя перакуленыя машыны, за каменне, што ляцела ў салдат.**

— Няма больш простага пытання. Павінен за гэта адказваць гарвыканком, і ў першую чаргу яго старшыня Ярмошын. Калі б не было гэтых беспадстаўных загадаў, правакацый, не было б ні перакуленых машын, ні камянёў, якія кідалі ў адказ.

**— Калі вам абяцаюць суд, дык ці будзе, па-вашаму, ён адкрыты?**

— Яшчэ першы следчы казаў, што будуць вывучаць справу 2 месяцы, не менш... А наконт адкрытасці... Ведаеце, разумная ўлада наогул ухілілася б ад суда, менш разумная зрабіла б яго адкрытым, але я думаю, што суд будзе закрытым. Мае двухгадовыя назіранні падказваюць мне, што будзе выбраны менавіта такі шлях, каб можна было асудзіць, а пасля гаварыць усё, што заўгодна.

**— Ці давалі вы ўжо якія-небудзь паказанні следству?**

— Справа ў тым, што я быў затрыманы супрацоўнікамі КДБ, і мне прапанавалі даць паказанні ў якасці сведкі, што я ўспрыняў натуральна, расказаў усё як было. Потым зайшоў другі следчы, паказаў пратакол аб затрыманні, і кажа: давайце паказанні як затрыманы. Як затрыманы я ўжо не даваў паказанні, таму што як сведка я ўсё расказаў. І больш паказанняў я не даваў.

**— Як да вас адносіліся прадстаўнікі аховы?**

— Спачатку я быў трое сутак ў ізалятары часовага ўтрымання, потым два дні ў камеры папярэдняга ўтрымання ў СІЗО на Валадарскага... Вядома, першыя пяць сутак былі самыя цяжкія і непрыемныя, бо там людзей трымаюць як жывёлу, у каменных мяшках, з голымі нарамі, ежу давалі раз у суткі... А стаўленне з боку персанала на здзіўленне было паважлівым, многія выказвалі сімпатыі да БНФ, выпадаў супраць наогул не было. Я, як і Сіўчык, быў запрошаны да начальніка СІЗО, дзе ён нам параіў не галадаць, паскардзіўся, што турма перапоўнена ў паўтара раза як мінімум. Але мяне змясцілі ў камеру, дзе было пяць чалавек, сярэдні ўзрост якіх 55 гадоў, чацвёра сядзелі ўпершыню. Так што было відавочным імкненне стварыць нам найбольш мяккія ўмовы з боку адміністрацыі.

**— Чаму?**

— Таму, што яны разумелі, што мы не крымінальныя злачынцы, што мы палітычныя зняволеныя. Таму я не меў ніякіх прэтэнзій да персаналу. Рэжым там цяжкі, бесчалавечны, але гэта не іх віна, рэжым трэба мяняць заканадаўцам. Самае цяжкае было пераносіць ізаляцыю ад усяго, не бачылі нават зеляніны, адны шэрыя сцены... На прагулку даецца адна гадзіна, дворык два на два метры, два крокі — паварот, два крокі — паварот, галава кружыцца пачынае. Ноччу мне неяк бэз прысніўся.

**— Як часта вам давалі магчымасць сустракацца з роднымі і адвакатам?**

— Гэты бок рэжыму таксама вельмі непрыемны, сустрэчы з роднымі дазваляюцца надзвычай рэдка, тым не менш, маёй жонцы дазволілі адно спатканне са мной, з умовай, што яна пераканае выйсці з галадоўкі. Але жонка мая на гэтым не настойвала. А адвакат прыходзіла, калі мела магчымасць, газеты прыносіла...

**— Вяртаючыся да падзей 26 красавіка, я хацеў бы вам нагадаць, што, напрыклад, Генадзь Карпенка заявіў, што ён не ўспрымае ў гэтым шэсці і мітынгу ўдзел украінскіх баевікоў і хвіліну маўчання ў памяць Д.Дудаева. А як вы ставіцеся да гэтых фактаў?**

— Я не згодны з Генадзем Дзмітрыевічам. Украінскіх баевікоў, калі іх можна так назваць, ніхто не запрашаў, але, з другога боку, ніхто і не забараняў ім удзельнічаць у шэсці. Забарона такая была б непавагай да прадстаўнікоў суседняй краіны. Папярэдне мы толькі папрасілі іх паводзіць сябе максімальна дысцыплінавана, і, калі не лічыць некаторых выключных момантаў на працягу ўсяго шэсця, яны ўсё-такі падпарадкоўваліся агульнай дысцыпліне. Наконт памяці Дудаева, то, па-мойму, каб яго лічыць разбойнікам, трэба быць абсалютна бессардэчным чалавекам, без усякага пачуцця спагады, здольнасці паставіць сябе на месца гэтага шматпакутнага народа, які знішчаецца ўжо 150 гадоў: 50 гадоў яго Расійская імперыя з Ярмолавым і казакамі заваёўвала, тапіла ў крыві, разбурала іхнія аулы, іх цывілізацыю, потым іх выселілі ўсіх, цяпер зноў знішчаюць толькі за тое, што яны хочуць жыць самастойна. А Дудаеў ужо стаў эпічным героем чачэнцаў. Я шчыра далучыўся да той хвіліны маўчання. Гэта было добра, гэта быў вялікі момант, калі ўсе 40—50 тысяч чалавек, што былі там, выканалі гэтую просьбу.

**— Вы казалі, што вы нікуды не з'едзеце. Але ў нашым грамадстве даволі востра абмяркоўваецца праблема вакол таго, што ў той час, як вы сядзелі ў турме, у Польшчу з'ехалі іншыя лідэры БНФ: Зянон Пазняк і Сяргей Навумчык. Як вы ацэньваеце гэтую калізію?**

— Гэта не калізія. Гэты выезд на самай справе з'яўляецца інфармацыйнай паездкай, і мэта, якая стаіць перад Навумчыкам і Пазняком, — даць максімальна шырокаму колу грамадскасці суседніх краін інфармацыю аб тым становішчы, якое склалася ў Беларусі. Іх знаходжанне на Украіне паказала, што яны своечасова туды паехалі, там абвастрылася цікавасць да Беларусі, і ў іншых краінах таксама. Не выкарыстаць такую магчымасць было б недаравальна. Яны зараз будуць ездзіць па тых краінах, куды іх будуць запрашаць урадавыя ці няўрадавыя ўплывовыя колы, да таго часу, пакуль будзе гэтая хваля цікавасці да Беларусі. Калі Пазняк вярнуўся 26 красавіка, мы яшчэ раз усё гэта абмеркавалі і дамовіліся, што, калі вычарпаецца гэтая магчымасць, яны абавязкова вернуцца. Мы іх прасілі не выкарыстоўваць больш слоў аб палітычнай эміграцыі, як казаў некалькі разоў Навумчык, бо гэта не адпавядае сутнасці акцыі, бо не было яшчэ ніякіх палітычных рэпрэсій. Толькі зараз пра гэта можна пачынаць гаварыць, калі з'явіліся загады затрымаць Пазняка і Навумчыка.

**— Яны вернуцца і адразу сядуць у турму, як вы?**

— Справа ў тым, што абвінавачанні Пазняку і Навумчыку прадстаўлены за падзеі 24 сакавіка па Адміністрацыйнаму кодэксу, а там ёсць тэрмін даўнасці ў тры месяцы. Таму будзе вельмі разумна з іх боку пабыць тры месяцы за мяжой. Калі пасля гэтага іх затрымаюць, то гэта будзе чысты прыклад палітычных рэпрэсій.

**— Ці лічыце вы, што гэта справядліва, што вам з Сіўчыкам даводзіцца адседжвацца ў турме, а Пазняку з Навумчыкам за мяжой?**

— У турме мог бы быць Пазняк, можа ён яшчэ і будзе там. Мне давялося сядзець пакуль што тры тыдні, яму, можа, давядзецца больш. Мы гатовы да таго, каб адстойваць правы чалавека не толькі на словах. І калі будуць нас саджаць, то як палітычных зняволеных. Мы паслядоўна вядзём палітыку непадпарадкавання прававому бязмежжу ў рамках закона, таму, відаць, мы і дабіліся гэтага вызвалення з-пад варты.

**Размаўляў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

**P.S.** *«Звязда» ўжо некалькі разоў прадстаўляла афіцыйны пункт гледжання пракуратуры горада Мінска на крымінальную справу па факту масавых беспарадкаў 26 красавіка. Зразумела, што погляд і падыход Ю. Хадыкі сур'ёзна разыходзіцца з гэтым.*

*Як паведамілі ў следчым упраўленні пракуратуры горада Мінска, каменціруючы некаторыя выказванні Юрыя Хадыкі, пакуль што абвінавачанне супраць Ю. Хадыкі ўдакладняецца, таму заўчасна даваць канкрэтныя тлумачэнні на гэты конт. Адназначна толькі тое, што яму інкрымінуецца парушэнне артыкула 186-3 Крымінальнага кодэкса «Арганізацыя або актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, што парушаюць грамадскі парадак» на аснове сабраных па справе доказаў. Следства будзе працягвацца яшчэ мінімум адзін месяц. Паводле заканадаўства, на разгляд любой справы адводзіцца тэрмін да двух месяцаў, якія заканчваюцца 26 чэрвеня. Аднак не выключана, што гэты тэрмін будзе падоўжаны у сувязі з вялікім аб'ёмам работы. У пракуратуры таксама зазначылі, што нельга называць справу Ю. Хадыкі палітычнай: яму прад'яўлена абвінавачанне па артыкулу, які прадугледжвае крымінальна каральнае дзеянне. Гэты артыкул знаходзіцца ў раздзеле 14 Крымінальнага кодэкса РБ «Злачынствы супраць парадку кіравання» і нават не ўваходзіць у разрад дзяржаўных злачынстваў, з'яўляючыся чыста крымінальным. Зразумела, Ю. Хадыку не інкрымінуецца нейкі актыўны ўдзел у правапарушэннях падчас шэсця, якіх ён не ўчыняў, а іменна яго арганізацыя. У цэлым супрацоўнік пракуратуры зазначыў, што няма сэнсу распачынаць дыскусію, якая не будзе мець пад сабой належнай асновы: пракуратура прад'яўляе сваё абвінавачанне на аснове сабраных па справе доказаў, а Ю. Хадыка выказвае свой уласны пункт гледжання.*

*У прынцыпе, рабіць высновы аб сапраўднай вінаватасці ці невінаватасці Юрыя Хадыкі не ўваходзіць у кампетэнцыю рэдакцыі газеты. Гэта будзе вырашацца ў судзе, які, спадзяёмся, будзе адкрытым і даступным для журналістаў. Сённяшні наш зварот да гэтай тэмы тлумачыцца перш за ўсё вялікім грамадскім рэзанансам у Беларусі і за яе межамі вакол арышту і галадоўкі намесніка старшыні Беларускага народнага фронту, вядомага беларускага вучонага-фізіка Юрыя Хадыкі.*




## ПРАВЕРКА І РЭГУЛІРОЎКА НАЦЯЖЭННЯ ПРЫВАДНОГА РЭМЕНЯ ГЕНЕРАТАРА

Для праверкі нацяжэння пацягніце рэмень у бок, паказаны стрэлкай. Калі прагін вельмі вялікі, то:

— на аўтамабілях «ВАЗ» (мал. а), «Масквіч» (мал. в) і «ЗАЗ-1102» (мал. г) трэба аслабіць гайкі мацавання генератара і, перамяшчаючы генератар ад рухавіка, нацягнуць рэмень і зацягнуць гайкі мацавання;

— на «Запарожац» для рэгуліроўкі нацяжэння рэменя 6 (мал. б) трэба пераставіць рэгуліровачныя шайбы 4 з унутранага боку пярэдняй палавіны шківа на вонкавы.




а) аўтамабіль «ВАЗ»:

1, 2 — гайкі мацавання;

б) аўтамабіль «ЗАЗ-969 М»:

1 — вал генератара, 2 — шпонка, 3 — каўпачок, 4 — рэгуляванне шайбы, 5 — дымны шкіў, 6 — рэмень, 7 — шкіў са ступіцай;

в) аўтамабілі «Масквіч», «АЗЛК»:

1 — кранштэйн, 2 — балты мацавання, 3 — гайка, 4 — болт рухомага злучэння, 5 — рэгуліровачная планка;

г) аўтамабіль «ЗАЗ-1102»:




1 — гайка мацавання генератара да нацяжной планкі, 2 — нацяжная планка, 3 — рэмень, 4 — шкіў прыводу генератара, 5 — генератар, 6 — гайка балта мацавання генератара да кранштэйна, 7 — шкіў каленчатага вала.

## ПРАДОЎЖЫЦЬ РАБОТУ ПЕРАКЛЮЧАЛЬНІКА

З цягам часу ў «Жыгулях» пачынае дрэнна працаваць пераключальнік паказальніка паваротаў: ён пачынае заядаць, што пагражае яго паломкай.

Прычына часцей за ўсё ў тым, што ў выніку зносу беражкоў нерухомых кантактаў 1 і 5 пераключальніка (гл. малюнак) пласціна 2 рухомага кантакта западае ў заглыбленні, якія ўтварыліся. Амаль поўнасцю ліквідаваць яе можна, устанавіўшы дадатковае кольца 6, выраблене з тэксталіту, на цэнтральны кантакт.

Пасля гэтага дадатку ваш пераключальнік будзе працаваць плаўна і бездакорна.




Кантактная група пераключальніка: 1, 3, 5 — левы, сярэдні і правы кантакты; 2 - пласціна рухомага кантакта; 4 - месца зносу кантакта; 6 - дадатковае кольца.

## ПЕРАГРАВАЕЦЦА РУХАВІК

**Пасля амаль 10-гадовай эксплуатацыі «Жыгулёў» стаў перагравацца рухавік. Устаноўлена, што ўзнікла неабходнасць прамывання сістэмы ахаладжэння аўтамабіля. Аднак ніхто не можа параіць, якім растворам трэба прамываць сістэму, улічваючы, што радыятар зроблены з алюмініевага сплаву.**

**Васіль ЗАВАДСКІ,** станцыя Навасады.

Як адказаў рэдакцыі галоўны інжынер «АўтавВАЗсервіс», усе радыятары (і алюмініевыя) таксама прамываюцца аднолькава. Накіп на сценках вадзяной рубашкі рухавікоў часцей за ўсё знімаюць растворамі кальцыніраванай ці каўстычнай соды.

Першы з іх гатуюць з разліку 100—150 г кальцыніраванай соды і 50 г газы на 1 л вады.

Другі — з разліку 50—60 каўстычнай соды і 25 г газы на 1 л вады.

Запоўніўшы сістэму ахаладжэння рухавіка адным з названых раствораў, запускаюць рухавік. Праз некалькі гадзін работы раствор зліваюць, прамываюць сістэму два-тры разы чыстай вадой і затым запраўляюць ахаладжальнай вадкасцю.



## НАДЗЕЙНАЕ МАЦАВАННЕ ТРОСА

У «Запарожцаў» даволі часта разбураецца трос прывода дросельнай заслонкі ў месцы мацавання наканечніка ў педалі «газу». Аўтааматары ведаюць шмат спосабаў удасканалення гэтага вузла. Але ёсць яшчэ адзін. У рычагу педалі пашырыць дзірку да дыяметра 9 мм, уставіць у яе ўтулку, зробленую з латуні ці бронзы, замацаваць у ёй трос, як паказана на малюнку. Калі трос у месцы мацавання з часам парвецца, яго можна перасунуць, вызваліўшы другі канец у маторным адсеку.

Трубку, у якую ўваходзіць трос, скараціце на 100 мм і адагніце яе ніжні край. Добра на трос у гэтым месцы надзець пластмасавую трубку.




Вузел мацавання троса:

1 - рычаг на педалі «газу»; 2 - утулка; 3 - трос; 4 - трубка; 5 - вінт М-5; 6 - шайба; 7 - болт М5.

## КЛЕЙ ЗАМЕСТ «БЛЕНДАМЕДА»

Калі на барабане апускання шкла вашага аўтамабіля адламаўся адзін ці два зубы, яго яшчэ рана выкідваць.

Паспрабуйце на іх месцы прасвідраваць дзіркі меншага дыяметра, чым таўшчыня самога барабана, нарэзаць у іх разьбу і ўкруціць шрубы на кляі БФ ці універсальным. Калі клей зацвярдзее, зрэзаць галоўкі шрубаў і апрацаваць іх канцы крыху на конус, як паказана на малюнку. Механізм зноў будзе добра працаваць.




1 - барабан, 2 - шрубы.





## — СЁННЯ —

**Маладзік 17 мая.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. УЗНЯСЕННЕ ГАСПОДНЯЕ.** Сімана Зілота, Таісіі **К.** Івоны, Дэзыдара

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па паўднёваму захаду пройдуць кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ў Віцебску, Брэсце — 14—16, Мінску, Магілёве, Гродне — 15—17, Гомелі — 16—18 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак надвор'е істотна не зменіцца, на значнай частцы тэрыторыі пройдуць дажджы. Тэмпература ўначы — 6—11, удзень 24-га — 14—19, 25-га — 17—22 градусы цяпла.

### МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НА 23 МАЯ

У бліжэйшыя суткі па Мінску і Мінскай вобласці захаваецца спастычны тып надвор'я. Захаваецца таксама верагоднасць пагаршэння самаадчування метэазалежных хворых з захворваннямі на гіпертанію, жоўцякамянёвую хваробу, стэнакардыю, бранхіяльную астму. Рэкамендуецца ашчадлівы рэжым і прымяненне назначаных урачом лекавых прэпаратаў.

**Антаніна КАРОЗА,** **навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

*Віншуем з днём нараджэння Дзеравянку Аляксандра Міхайлавіча. Жадаем моцнага здароўя і доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*

**Супрацоўнікі.**

Віншую дарагіх мне людзей з днём нараджэння! У Мінску — Н. С. Пракаповіч, Л. Ф. Пракаповіч, у Зарэчным — Л. П. Карпенюка. Здароўя, шчасця, радасці ўсім.

**В. Ф. СЕРАДА.**

Паважаныя бацькі Ганна Яўгенаўна і Уладзімір Канстанцінавіч Рудакоўскія.

Сардэчна віншуем Вас з юбілеем — 25-годдзем сумеснага жыцця. Шчасця і здароўя Вам, спакою, цяпла і дабрабыту.

**Дочкі, зяці і ўнукі.**

Згубленае пасведчанне інваліда 3 групы № 070634 серыі 09, выдадзенае на імя Вініцкага Аляксея Мікалаевіча, лічыць несапраўдным.

Згубленае пасведчанне інваліда 3 групы № 0011195 серыі 08, выдадзенае на імя Ярашэвіч Ганны Іванаўны, лічыць несапраўдным.

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

**23 мая 1048 года** нарадзіўся Амар Хаям, славуты персідскі і таджыкскі паэт, матэматык, філосаф. Сусветна вядомыя філасофскія чатырохрадкоўі (рубаі) прасякнуты пафасам свабоды асобы, антыклерыкальным вальнадумствам.

**23 мая 1173 года** памерла беларуская асветніца Ефрасіння Полацкая, залічаная ў лік святых Беларускай праваслаўнай царквы. Нарадзілася у 1110 годзе ў Полацку. Дачка князя Георгія Усяславіча, унучка славутага полацкага князя Усяслава Брачыславіча Чарадзея. Адмовіўшыся ад свецкага жыцця, князёўна Прадслава пастрыглася ў манашкі пад імем Ефрасінні і пасялілася ў келлі Сафійскага сабора, дзе перапісвала кнігі, складала летапісы, стварала арыгінальныя творы. Пабудавала дзве царквы ў Полацку, заснавала жаночы і мужчынскі манастыры. Паломнічала ў Іерусалім, дзе і памёрла.

У гэты дзень **у 1707 годзе** нарадзіўся Карл Ліней, вядомы шведскі прыродазнаўца, стваральнік сістэмы расліннага і жывёльнага свету. Апісаў 1500 відаў раслін.

Гэтым днём — **23 мая — у 1733 годзе**, як лічыцца, закончана стварэнне «Курантаў» — рукапіснага зборніка свецкіх і рэлігійных песень-гімнаў. Зборнік створаны ў Яраслаўлі, але некалькі песень маюць акрэслена беларускія рысы: «В неделенку рано», «Ганнусенька каханая», «Тяжкая мая бедонька». «Куранты» складаліся, відаць, шляхам перапісвання з больш ранніх крыніц.

**23 мая 1842 года** нарадзілася польская пісьменніца Марыя Канапніцкая. «Ніякія жыццёвыя нягоды не здолелі зламаць ці прыглушыць яе вялікіх агульналюдскіх думак», — пісала ў 1910 годзе пра М. Канапніцкую «Наша ніва». «Краіна цікавая, упершыню знаёмлюся з ёю, моцна падабаецца мне», — гэта ўжо сама Канапніцкая пра Беларусь, пра Піншчыну (1888 год).

**23 мая 1910 года** ў Пецярбургу Янка Купала закончыў паэму «Курган».

### Народны каляндар

***Сёння — Ушэсце (Узнясенне Гасподняе). Свята прысвечана ўспаміну таго, як на саракавы дзень пасля свайго ўваскрэсення Ісус Хрыстос узнёсся на неба. У перыяд ад Уваскрэсення да Узнясення Хрыстос з'яўляўся вучням і навучаў іх ісцінам Царства Нябеснага.***

Здаўна да Ушэсця, Шосніка беларускія земляробы прымяркоўвалі старажытны магічны веснавы абрад ваджэння і пахавання «стралы». Найбольш пашыраны ён у Пасожжы. Удзельнікі рытуалу наладжвалі карагоды, гульні, качанне па полі, закопванне «стралы» на ярыне, каб тая давала ёй жыццё. «Стралой» завяршаліся веснавыя каляндарныя земляробчыя святы.

### Неверагоднае, загадкавае...

***Старажытныя рымляне, магчыма, мелі ваенна-паветраныя сілы!***

Гэтую гіпотэзу вылучыў вядомы археолаг Карл Беліні. Падставай для такога меркавання паслужылі неаспрэчныя археалагічныя факты. Д-р Беліні апублікаваў ашаламляльныя звесткі аб знойдзеных ім абломках металічнага крыла, якое нагадвае частку вінтакрылай машыны. Прадмет датуецца канцом I стагоддзя да н. э. Знаходка была абследавана грамадзянскімі і ваеннымі авіятарамі, якія аднагалосна заключылі, што гэтая частка нейкага складанага механізма валодае выдатнымі аэрадынамічнымі якасцямі і магла, з вялікай верагоднасцю, сапраўды служыць крылом лятальнага апарата, здольнага лунаць у паветры. Зараз крыло даследуюць спецыялісты Х'юстана, дзе знаходзіцца цэнтр касмічных даследаванняў ЗША.

### Цікава...

***Колькі амерыканцаў і прыезджых трацiць вялізныя сумы, прайграючы ў галоўным цэнтры ігральнага бізнесу ЗША Лас-Вегасе, дакладна невядома, такі ўлік там не вядзецца.***

Затое гаспадары казіно самым уважлівым чынам фіксуюць імёны тых, каму ўдалося атрымаць з касы, скажам, «аднарукага бандыта» суму звыш 1 мільёна долараў (здараюцца і такія фантастычныя выйгрышы). У спісе такіх шчаслíўцаў налічваецца 141 чалавек. Усе яны з'ехаліся на сустрэчу, нядаўна наладжаную для іх уладальнікамі казіно і іншых ігральных устаноў.

Самую вялікую ўдачу лёс падарыў Дональду Сарбо. Яму з жонкай наладзілі асабліва пышны прыём. Яшчэ б: у 1989 годзе ён выйграў адразу 2,7 млн. долараў. А да гэтага Дональд 8 гадоў не меў нават уласнага прытулку, жыў бамжом у Лас-Вегасе, пакуль фартуна не ўсміхнулася яму па-сапраўднаму.

### Народны гумар

*— Вось, цётка, будзеш даваць гэтае лякарства свайму старому па дзесяць лыжак у дзень.*

*— А божа ж мой! Дзе ж я вазьму столькі лыжак? У мяне іх толькі чатыры.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288. Індэкс 63850.
Зак. № 2535.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12